Юрась
Залоска

# Дыялогі з Васілём Быкавым

*Інтэрв'ю, эсэ*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1995

83.3(4Беи)
З-24
УДК 882.6-4 + 929 Быкаў

Залоска Ю.
З24 Дыялогі з Васілём Быкавым: Інтэрв'ю, эсэ. — Мн.: Маст. літ., 1995. — 95 с.
ISBN 985-02-0139-8.

У «трох вымярэннях» вядзецца дыялог журналіста Юрася Залоскі з Васілём Быкавым: у форме палітычнага інтэрв'ю, размовы на грамадзянскія тэмы; у форме літаратурнай эсэістыкі, «сумоўя» з мастацкімі творамі пісьменніка; як звычайнае чалавечае сумоўе. Урэшце паняцце дыялога набывае ў аўтараў пашыраны сэнс і становіцца той літаратурнай формай, якая спараджае адначасна і шматмернае асэнсаванне мінулага, і эўрыстычнае рэфлексаванне над будучыняй.

З $\frac{8820600900 - 047}{М 302(03) - 95}$ БЗ 12—95

ББК 83.3(4Беи)

ISBN 985-02-0139-8

© Залоска Ю. І., 1995

## ТРОХВЫМЕРНАЕ СУМОЎЕ.

Колькі слоў уступу

Уласна, гэтая невялічкая кніжка не вымагае адмысловай прадмовы: усё сабранае ў ёй у свой час было напісана і надрукавана як асобныя журналісцкія «творы» — напісана без аніякага плана і далёкасяжнай задумы. Так атрымалася незаўважна для аўтара... ці, праўдзівей, — аўтараў. І вось зараз колісь спарадычныя публікацыі выпадае размясціць амаль у храналагічнай (па часе з'яўлення) паслядоўнасці. Ці аб'яднаны гэтыя дыялогі і эсэ агульнай ідэяй — не ведаю, можа, тое здольны ўбачыць чытач. Аднак у адным, прынамсі, яны звязаны — звязаны, так бы мовіць, прычынай свайго з'яўлення. Бо яны паслядоўна выраслі адно з другога (папярэдняга) як працяг нейкай быццам напярод зададзенай размовы. І на колькі часу патэнцыял гэтай размовы не быў вычарпаны — столькі і спатрэбілася захадаў, каб яе, размову, спраўдзіць. Спраўдзіць як адмысловае творчае заданне.

Думаецца, у такім сцвярджэнні няма ніякай містыкі. Бо прыцяжэнне Асобы, Мастака, Пісьменніка — з'ява настолькі натуральная для ўсіх часоў, што тлумачыць яе няма патрэбы. Вось толькі таямніцу прыцяжэння ніяк не растлумачыш... Тут сапраўды — нешта містычнае... калі толькі містыкай можна назваць выспельванне пытанняў іменна да ГЭТАГА чалавека, прываражэнне мастацкай прозай іменна ГЭТАГА мастака, найчуйнейшае ўслухоўванне ў публічнае слова іменна ГЭТАГА грамадзяніна. Васіль Уладзіміравіч Быкаў — той Чалавек, Мастак, Грамадзянін, які стаіць за зборам гэтых інтэрв'ю і эсэ.

На працягу некалькіх апошніх гадоў Васіль Быкаў прыцягвае маю ўвагу ў розных іпастасях: то як палітычны і грамадскі дзеяч (таму менавіта і пачаліся гутаркі ў 1992 годзе), то як мастак слова, пісьменнік (з гэтым звязаны пазнейшыя спробы літаратурнай крытыкі), то як папросту мысліцель-інтэлектуал (з чаго вынікае эсэістыка). Не дзіўна таму, што дыялог з Быкавым набыў некалькі

вымярэнняў: ад звычайнага чалавечага сумоўя да «сумоўя» з мастацкімі творамі пісьменніка. У кожным выпадку суразмоўнік адзін — Васіль Быкаў.

...Удзячны Васілю Уладзіміравічу за тое, што ён заўжды пакідае магчымасць прадоўжыць гутарку ў будучым. Найлепей, калі нешта застаецца недагавораным і пераносіцца ў будучыню як пабуджальнік новага дыялогу.

*Ю. З.*

# ПОШУКІ АПТЫМІСТЫЧНАГА ЗЫХОДУ

Тры дыялогі з Васілём Быкавым

* * *

Па сутнасці, гэта быў адзін дыялог (студзень 1992), які меў тры часткі: дзве вусныя і адну пісьмовую. Тэма асноўнай гутаркі — пісьмовай — была зададзена мной наўмысна непалітычна: «Духоўны крызіс грамадства і яго пераадоленне»,— аднак жа пачалі і скончылі мы палітыкай...

Чаму мяне, імкнучага — натуральна, з-за маладосці — як мага адэкватна зразумець свой час, журналісцкі пошук прывёў у рабочы кабінет Васіля Быкава? Звярніце ўвагу на час нашых сустрэч: прайшло паўгода пасля таго, як у жніўні 1991 года шаля гістарычных вагаў канчаткова схілілася на бок постсавецкай дэмакратыі (дэмакратыі пачаткоўцаў, як назаве яе пісьменнік); месяц таму перастаў існаваць Савецкі Саюз як адзіная краіна са сталіцай у Маскве... Што наперадзе? Чым скончыцца распад вялікай, семдзесят год непарушнай краіны?.. Пытанні гэтага шэрагу тады толькі паўставалі ў грамадскай свядомасці, аднак вастрыня іх не зменшылася да сюль, і, мабыць, яшчэ немалы час яны будуць хвалявацб грамадства. Да каго звяртацца па раду, чыё меркаванне выслухаць перш? Відаць, сумленных мысляроў нядаўняга мінулага, меўшых мужнасць выказваць праўду і раней...

Васіль Быкаў і раней меў мужнасць адкрыта казаць: тыя з нас, хто не пераасэнсуе жыццё мінулае,— страчаны для жыцця будучага; каб зладзіць свой лёс, здабыць годную будучыню, трэба пераадолець, зжыць псіхалагічную спадчыну таталітарызму. Творы пісьменніка спрыялі такому пераасэнсаванню:

пасля напружанай «ваеннай прозы», пасля партызанскіх аповесцей, пасля «Аблавы», пасля палітычнай публіцыстыкі (выдадзенай у 1992 годзе асобным зборнікам «На крыжах») мы глыбей, па-іншаму ўспрымалі рэаліі жыцця, мужнелі духам.

Ад пачатку «перабудовы» пісьменнік знаходзіцца ў эпіцэнтры барацьбы за дэмакратыю, прымае ўдзел у стварэнні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», абіраецца прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Яго імя — на штандарах рэфарматарскіх сілаў у Беларусі, талент — у палітычнай публіцыстыцы і грамадскіх выступленнях. Талент пісьменніка — на бестэрміновай перадавой...

Пры нашай сустрэчы Васіль Уладзіміравіч не без скрушнасці скажа: «Самая вострая пакута цяпер — палітычная, і творчасць адмысловая — публіцыстычная, чым у асноўным і займаюся. Гэта, безумоўна, не літаратура, хоць палітыка і літаратура моцна звязаны. Што датычыць беларускай культуры і літуратуры апошніх дзесяцігоддзяў, дык палітыка ў іх была вызначальнай...»

* * *

## Дыялог першы — вусны

### МЕНТАЛІТЭТ ГРАМАДСТВА І ЛЁС ДЭМАКРАТЫІ. ВЫРАТАВАЛЬНАСЦЬ РАДЫКАЛІЗМУ

*— Васіль Уладзіміравіч, апошнія гады вы вельмі многа і востра выступаеце з палітычнай публіцыстыкай, пастаянна выказваеце свае ацэнкі палітычных падзей. Неаднаразова ў вас гучала думка наконт таго, што наш народ яшчэ недастаткова палітызаваны. Гучыць «у піку» агульнажурналісцкаму штампу, што, маўляў, наша грамадства надзвычай спалітызаванае і стамілася ад гэтага. У якім сэнсе, па-вашаму, грамадства яшчэ недапалітызаванае і якой, адпаведна, палітычнасці яму бракуе?*

— Сучасны стан нашага беларускага грамадства дае падставы гаварыць пра яго як пра грамадства апалітычнае.

Калі б яно было ў дастатковай меры палітызаванае і ўсведамляла ўласную ролю ў гісторыі Беларусі, дык у нас не мелі б месца такія прыкрыя з'явы, якіх не бывае ў нармальна палітызаваным грамадстве. А менавіта: у парламенце не было б столькі вакантных дэпутацкіх месцаў, значныя палітычныя падзеі расцэньваліся б адэкватна і не блыталіся з другараднымі (параўнайце рэакцыю насельніцтва на абвяшчэнне суверэнітэту рэспублікі і на аднаразовае павышэнне кошту заводскага харчавання), не было б негатыўных адносін да свае нацыянальнае мовы і культуры. Палітызаванае грамадства не паставіла б паўтысячы аднолькавых помнікаў чужому правадыру і без дыскусій зразумела б, чаму цяпер іх трэба прыбраць. Урэшце, палітызаваныя грамадзяне інакш бы паставіліся да выбараў у парламент...

«А што ад таго (ад выбараў, рэферэндумаў і да т. п.) — пабольшае каўбасы?» — вось вынік тае палітызацыі наадварот, якая і цяпер дае самыя шырокія магчымасці для маніпуляцыі народнаю воляю ўсім, хто наверсе,— ад камуністаў да дэмакратаў, якіх, зрэшты, шырокія масы проста не навучыліся адрозніваць між сабой. Не, такое грамадства — класічны прыклад апалітычнасці.

*— Апошнім часам, здаецца, наша грамадства, не паспеўшы зрабіцца праўдзіва палітызаваным, ужо пазбаўляецца ілюзій наконт магчымасці хуткага ўсталявання справядлівай і гуманнай улады. Прыход дэмакратыі зацягнуўся, цытуючы класіка, усур'ёз і надоўга... Ці не былі перабольшанымі нашыя спадзяванні на хуткае, імгненнае ўсталяванне дэмакратычнага ладу? Выглядае, што грамадства, дэмакратычныя сілы пераацанілі свае магчымасці наконт тэрмінаў дэмакратызацыі; цуду не адбылося, і цяпер шмат хто з дэмакратаў у апатыі, расчараваны. Відаць, нады-*

*ходзіць пераломны момант, калі трэба прымірыцца з тым, што яшчэ не хутка ўсталюецца дасканалая ўладавая структура?*

— Правільна. Тая эйфарыя была, канешне, фальшывай, неабгрунтаванай. Справа ў тым, што камуністычны лад і камуністычная па сутнасці псіхалогія панавалі ў нас ледзь не стагоддзе. У яе атмасферы выхаваўся пэўны менталітэт грамадства. Ліквідаваць, зжыць гэты менталітэт за некалькі гадоў немагчыма.

Для таго павінна адбыцца змена пакаленняў. Мы бачым, што пабудова дэмакратычнага грамадства, апроч іншага, моцна ўпіраецца ў псіхалогію. Нават нашы дэмакраты (несумненна, лепшыя сярод нас людзі, і людзі разумныя), якія хочуць быць іменна дэмакратамі, але... яны такімі быць не могуць. Яны суб'ектыўна не могуць быць такімі, хоць бы таму, што цяжка зжыць не толькі камуністычную ментальнасць, але і тое імперскае, шавіністычнае мысленне, якое ёй спадарожнічае... Каб пазбавіцца ўсяго гэтага, мусіць, патрэбен час.

— *Ці магчыма нейкая грамадская ідэалогія, адпаведная гэтаму пераходнаму часу, якая паспрыяе перайсці да больш гнуткай, дэмакратычнай ментальнасці?*

— Думаю, што не, не магчымая, бо гэта досыць няпэўны, зменлівы пераходны перыяд, працэс, у якім узаемадзейнічаюць розныя фактары. Але, несумненна, гэта рух у напрамку дэмакратызацыі. І ён увогуле ідзе, толькі ідзе марудна, з рознымі эксцэсамі. Іншага выйсця няма. Могуць быць і рэцыдывы мінулага, узнікненне ў выніку путчаў дыктатарскіх рэжымаў — гэта абсалютна магчыма. Толькі будучыні за імі няма, таму што яны не здольны забяспечыць гістарычны прагрэс, і рана ці позна самы жорсткі і ўсеўладны дыктатарскі рэжым рухне. Рухне зусім не таму, што яго скінуць нейкія рэвалюцыйныя сілы, а па той прычыне, што матэрыяльна ён будзе пазбаўлены магчымасцей для развіцця. У нас так ужо атрымалася: Гарбачоў і кам-

партыя пачалі перабудову, бо пераканаліся, што наш «сацыялістычны» метад гаспадарання зжыў сябе і мы сталі банкрутам у спаборніцтве з Захадам. Гэтым жа скончыць кожны новы Франка, Піначэт ці Салазар.

*— Калі дэмакраты апынуліся ва ўмовах шматпартыйнай сістэмы, суверэнізацыі рэспублік — былых складніц Саюза ССР,— ці не варта ім утаймаваць энергію разлому, разбурэння, трохі «паправець»?*

— Абсалютна з гэтым не згодны, таму што не бачу ніякай «дэмакратычнай празмернасці» ў правядзенні рэформ. Дый хіба яны ў нас ажыццяўляюцца? Па сутнасці, мы знаходзімся ў стане стагнацыі, і далейшы рух па інерцыі прывядзе да пагібелі.

Наша грамадства, паўтару, не адносіцца да празмерна палітызаванага, яно застаецца апалітычным, бо ніякім чынам не ўплывае на палітыку. Наваўтвораныя палітычныя партыі таксама амаль не ўплываюць на палітычнае развіццё грамадства. Дзейсны палітычны рух робіцца высілкамі досыць вузкага кола людзей, найперш — апазіцыяй у Вярхоўным Савеце. Калі і яна зменшыць актыўнасць, дык увогуле не будзе ніякай палітычнай перспектывы, посткамуністычная стагнацыя задоўжыцца на невядомы тэрмін. Дык ці варта змяншаць «дэмакратычны радыкалізм»?

*— Але ці зразумее грамадства выратавальнасць радыкалізму?*

— Мне згадваюцца словы Л. Талстога наконт таго, што каб пераправіцца праз раку ў прызначанае месца, трэба браць куды вышэй па цячэнні, бо калі прыцэльвацца на тое ж месца, куды трэба патрапіць,— цячэнне знясе ніжэй... Пры пасіўнасці і апалітычнасці грамадства больш перспектыўна, відаць, ставіць задачы больш маштабныя, чым тое дазваляюць выканаць сённяшнія магчымасці. Трэба, каб грамадства прызвычаілася да высокіх мэт. Паглядзіце, некалькі гадоў таму БНФ ставіў, здавалася б, зусім нерэальнае, неверагоднае пытанне аб прызнанні нацыянальнай сімволікі. Тады гэта

гучала нязвыкла, шмат хто і сярод інтэлігенцыі лічыў, што й не варта гэтае пытанне ўздымаць... А сёння — бачыце: «крамольны» сцяг лунае над Вярхоўным Саветам. Гэтаксама і з заваёвай суверэнітэту. Яшчэ за некалькі месяцаў да прыняцця Дэкларацыі сама ідэя ўспрымалася як лозунг, «фраза». Аднак жа і гэтая ідэя ператвараецца на нашых вачах у рэальнасць. І так, трэба меркаваць, будзе ва ўсім, што тычыць палітычнага працэсу. Калі ж чакаць «спеласці» грамадства, дык мы ў справе пабудовы незалежнай Беларускай дзяржавы асуджаны бясконца таптацца на месцы.

Думаю, што ўсё будзе залежаць ад таго самага радыкалізму, наконт патрэбы якога ў вас узніклі сумненні.

## Дыялог другі — пісьмовы

### ДУХОЎНЫ КРЫЗІС: ДРАМА СТРАЧАНЫХ ПАКАЛЕННЯЎ

*— У сваіх публіцыстычных выступленнях вы, Васіль Уладзіміравіч, досыць песімістычна ацэньваеце жыццё старэйшых пакаленняў савецкіх людзей: як жыццё, патрачанае без сэнсу, упустую, бязмэтна... Калі б такі прысуд вашаму пакаленню выказаў мой равеснік...*

*Але, уяўляецца, жыцця* **без мэты** *ўвогуле не можа быць — чалавек заўсёды шукае суладдзя са сваім часам. Здаецца, што дзесьці пад ультрасавецкай ідэалогіяй тым не менш існавала і праніклёна-гуманістычная — выратавальная духоўная плынь. Глядзіш на старыя, паваенныя фатаграфіі і дзівішся — асабліва на фота 60-х гадоў — прасветленасці, адухоўленасці чалавечых твараў, цеплыні ўсмешак... У 70-я, прынамсі, такога лірызму меншае. Але ўсё роўна: можа, не так усё адназначна змрочна ў нашай духоўнай гісторыі, і не ўсё так безнадзейна цяпер?*

— Жыццё ўсіх пакаленняў нашай няшчаснай краіны

вельмі ж незайздроснае, у тым ліку і таго пакалення, да каторага належыць ваш суразмоўнік.

Але ўся справа, мусіць, у адносінах да тае незайздроснасці: адны яе саромеюцца, другія ёю ганарацца. Адны імкнуцца асэнсаваць сваё мінулае, каб здабыць з яго нейкі, хай сабе маральны ўрок, іншыя — каб здабыць якую выгоду. У нас ідзе барацьба за прывілеі, па сутнасці — за кавалак смярдзючай каўбасы, якую не ядуць сабакі. І тут цікава тое, што некаторых абурае не сама сутнасць тае паскуднае барацьбы, а яе пэўны вынік. Звычайна ў такіх выпадках навучыліся гаварыць: так, подла, па-свалачному жылі, але ж верылі шчыра, быў энтузіязм! («Мы не глядзелі, што мы елі — такі вялікі быў уздым».) Саджалі, калектывізавалі, будавалі. І высылалі. І даносілі. І супрацоўнічалі... Але мне думаецца, што чалавек з нармальнай, не пашкоджанай псіхікай у такім выпадку лепш прамаўчыць, каб не дэманстраваць не толькі відавочную амаральнасць свайго жыцця, але й сваё дрымучае глупства.

Так, сапраўды, не ўсё так адназначна ў нашай гісторыі, ды і псіхалогіі таксама. Пакаленні людзей, якія за шмат гадоў прызвычаіліся існаваць у дагары нагамі перакуленым свеце, па той бок славутага люстэрка, і на старасці год не здольны зразумець свае трагедыі,— гэтыя пакаленні для нацыі страчаны, таксама як і для чалавечай гісторыі.

— *Але, здаецца, з падзеннем імперыі парушыўся пэўны лад жыцця — хай і саветызаваны, наскрозь міфалагізаваны, пракамуністычны — але ж усё-такі* ЛАД, *са сваёй гармоніяй і нават спецыфічнай эстэтыкай, пэўнай маральнай кансерватыўнасцю. І вось зараз гэты лад — парушаны, а разам з ім парушаны не толькі палітычныя інстытуты і дзяржаўнасць, але й уладкаванасць псіхалагічнага існавання мільёнаў людзей. Парушаны лёсы.*

*Вас не трывожыць магчымае выспяванне тут*

*агульнай, мо самай балючай для нашых суайчыннікаў духоўна-псіхалагічнай праблемы?*

— Розныя бываюць «лады» і «парадкі». Самы ўзорны быў, мабыць, славуты нямецкі «орднунг», нацысцкі «новы парадак» у Еўропе. Камуністычны парадак таксама на шмат пасягаў (калі не на ўсё), толькі ўсяго не дамогся — мабыць, не тыя былі выканаўцы. Усё ж, не зважаючы на бясконцае, сістэмнае «натаскивание» (у гуртках, універсітэтах, ВПШ, акадэміях), кадры пакрысе гублялі рэвалюцыйную ленінскую апантанасць і памалу, але няўхільна перараджаліся ў звычайных бессаромных хапугаў — хапугаў кабінетаў, чорных аўтамабіляў, дачаў... Натуральна, цяпер, калі мяняецца сацыяльны характар грамадства, узнікае бязладдзе, парушыліся і лёсы людзей — скарочаных апаратчыкаў, звольненых міністэрскіх чыноў, беспрацоўных (часова, аднак) сексотаў, велізарная армія абслугі — парыльшчыкаў з урадавых саунаў, пакаёвак, шафёраў, ахоўнікаў... Вядома, ім трудна, няўтульна, нязвыкла. Але іх можна суцешыць: усё тое часова. Новыя нацыянальна-бюракратычныя структуры, якія скрозь бурна ствараюцца, нікога не пакінуць забытым, усіх падбяруць у сваю шырокую арбіту... Гэта я кажу з упэўненасцю, бо, відаць, новыя задачы немагчыма вырашыць без старых, «выпрабаваных» кадраў. Даўно вядома, што «падпэцканыя» служаць больш верна, чым «чысценькія».

— *Пры зменах заўсёды важна, ШТО ідзе на змену ўчарашняй ментальнасці і ўчарашняй гармоніі. Таталітарызм як лад жыцця гіне, затухае ў часе (не ўлічваючы рэліктавых праяў). Здаецца, мы ведаем, што на змену ідзе дэмакратыя. Прынамсі, тое нам уводзіць у вушы афіцыйная прапаганда. Але ж папраўдзе выглядае, што гэта (дэмакратыя) для нас пакуль што такі ж фантом, якім раней быў камунізм...*

*Калі своечасова пазбавіцца «дэмакратычнай зададзенасці» ва ўспрыманні падзей, дык можна ўбачыць*

*відавочны наступ заходняй масавай культуры — прычым самых паталагічных, самых «утылізаваных» яе праяў. Кіно зараз у нас — панамерыканскае (наскрозь насычанае псіхалагічным тлумам, дэструкцыяй), літаратура — камерцызаваная, трылерна-сексуалісцкая. Выглядае, такім чынам, што новы духоўна-інфармацыйны паток таксама адчужаны ад нармальнай псіхалогіі і «здаровага сэнсу», а самае галоўнае — ад духоўнага жыцця, культуры простага народа (гэты эўфемізм, праўда, з цягам дэмакратычных пераўтварэнняў набыў чамусь зняважліва-паніжанае гучанне, але ад таго не знік сам суб'ект — народ, які найперш увасабляе сабой беларуская вёска). Дык вось: вам не здаецца, Васіль Уладзіміравіч, што пад ідэалогіяй дэмакратызацыі краіны духоўная сфера нашага грамадства пачала яшчэ больш актыўна развівацца ў кірунку канчатковага знішчэння традыцыйнай маралі, цалкам не знішчанай савецкім ладам, і ў гэтым — больш жахлівая трагедыя, чым маральны распад часоў застою?*

— Перш чым жахацца ад тае перамены, мне думаецца, няблага паглядзець, як гэта выглядае ў іншых краінах. У тых, дзе прагрэс пачаўся раней, чым у нас, зайшоў далей, і ў якіх мы цяпер просім хлеба, каб накарміць народ.

Кожны народ пры нармальным (без гістарычнай паталогіі) развіцці праходзіць пэўны, аб'ектыўна азначаны гісторыяй шлях, пераскочыць асобныя звенні якога нікому не дадзена. Нельга з феадалізму адразу сягнуць у сацыялізм, з эканамічнага прымітыву Верхняй Вольты інтэгравацца ў высакаразвіты Еўрапейскі Эканамічны Саюз, ад бальшавіцкага лікбезу ўзвысіцца да сучаснай еўрапейскай культуры. Мусіць, спярша трэба назапасіць эканамічны, культурны, маральны капітал. Наша дэмакратыя з'яўляецца дэмакратыяй пачаткоўцаў, а наша знявечаная бальшавізмам, дэнацыяналізаваная культура, вядома ж,

яшчэ не валодае патрэбным імунітэтам да горшых праяў так званай масавай культуры Захаду.

Відаць, і нам трэба прайсці нейкі абавязковы гістарычны прамежак, каб выпрацаваць высокія ўзоры культуры, а галоўнае — ПРЫВІЦЬ ГРАМАДСТВУ ГУСТ І ПАТРЭБУ Ў ВЫСОКІМ. Хоць, зрэшты, узоры высокай культуры, як і высокі густ — болей прывілея эліты, а масы задавальняліся культурай ніжэйшага гатунку. Так ва ўсім свеце, так мусіць быць і ў нас. Шмат што ў гэтым сэнсе будзе залежаць ад духоўнай патэнцыі нацыі, якой у беларусаў даволі за стагоддзі назапашана, збержона ў геннай памяці, не выдаткавана ў суровым жыцці і цярпліва чакае свае магчымасці для выяўлення. І тое суцяшае.

— *Але грамадства мае сталую патрэбу маральнага апірышча, не зважаючы на сацыяльныя, гістарычныя катаклізмы. Маральная раўнавага ці то асобнаму чалавеку, ці то людской супольнасці патрэбна ў любых палітычных варунках. Як думаеце, ці здольна стаць такім апірышчам для нашага грамадства хрысціянства?*

— Хрысціянства, безумоўна, магутная сіла. Але ў дачыненні да сучаснага моманту, я баюся, атэістычны перыяд нашай гісторыі падзейнічаў самым разбуральным чынам. За той час, калі грамадства жыло ў атэістычнай атмасферы, яно выпрацавала ў сабе ўнутраную здольнасць існаваць без хрысціянства, абыходзіцца атэізмам. Гэта вялікае няшчасце... Сёння, я баюся, наўрад ці магчыма такое становішча, пры якім рэлігія зноў заняла б у нашым грамадстве тое месца, якое яна займала да 1917 года.

Мы, аднак, бачым, што заходняе грамадства, якое ніколі не было атэістычным, у якім хрысціянская рэлігія існавала ў нармальных умовах, сёння не надта каб захаплялася хрысціянствам. Яго там прызнаюць, шануюць, але тым не менш ахаладжэнне да хрысціянства назіраецца ва ўсім цывілізаваным свеце.

*— Але духоўныя «пастыры» ў грамадства ўвесь час знаходзяцца... Старой сістэме служыла вялікая частка інтэлігенцыі, у тым ліку і пісьменнікі. Так, гэта былі «камунізаваныя» людзі, паслугачы Яе Вялікасці Улады, але, здаецца, яны былі і арганічнай часткай народа (прынамсі, выхадцамі з яго); у гэтым сэнсе між народам і інтэлігенцыяй існавала лучнасць.*

*З адыходам рэжыму страціла былы ўплыў на духоўнае жыццё заангажаваная савеччынай інтэлігенцыя. Тым часам дамінацыю набывае плынь учорашніх дысідэнтаў — і гэта мы назіраем праз сродкі масавай інфармацыі, якія раней СУПРАЦЬПАСТАЎЛЯЛІ сябе дзяржаве, а зараз, як бачым, супрацьпастаўляюць сябе ЎСЯМУ ГРАМАДСТВУ. Мільёны людзей, «гомо савецікусаў», па-іхняму, жывуць быццам няправільна, а вось некалькі соцень «либеральствующих» інтэлігентаў — правільна. (Тое — найперш расейскі фенамен. — Ю. З.) Праз расейскае тэлебачанне не горш за партыйных сакратароў нас выхоўваюць «як жыць» прыехаўшыя з-за мяжы эмігранты, якія, аказваецца, лепш за нас разбіраюцца ў праблемах краіны... Вас часам не бянтэжыць, што ў грамадства з'яўляюцца вось такія новыя «пастыры» і «лекары»?*

— Перадусім: паміж камунізаванай інтэлігенцыяй і занядбаным народам ніколі не было і не магло быць ніякай лучнасці.

Народ заўжды жыў клопатам пра сваё зямное, галоднае, турботнае, нярэдка страхавітае жыццё — камуністы-інтэлігенты верай і праўдай служылі вар'яцкім інтарэсам усемагутнай партыі. Зрэшты, ці магло быць інакш, калі ад тае іх стараннасці на ўсе 100 працэнтаў залежалі іх кар'ера, дабрабыт, побыт — ад пыжыкавых шапак да дэпутацкіх чыноў і акадэмічных званняў. Яны і цяпер прадаўжаюць жыць на той, назапашаны ад кампартыі капітал, іншага ў іх проста няма. І наўрад ці будзе: зарабіць у рынкавай сістэме яны не ўмеюць, а прасіць няма ў каго...

Камунізаваная інтэлігенцыя, бадай, самы канфармаваны клас нашага беларускага грамадства. З ёю атрымалася прыкладна тое ж, што здарылася з расейскай інтэлігенцыяй пасля паразы рэвалюцыі 1905 года: яна ўсё жыццё каялася. Наша, беларуская інтэлігенцыя каялася болей моўчкі — за «грэх» беларусізацыі 20-х гадоў (вядома ж, каб ўратавацца і выжыць ва ўмовах сталінскага тэрору). Праўда, тое ўратавала не ўсіх, затое паслужыла добрым урокам жаху, якога ёй хопіць, мабыць, ажно да канца стагоддзя. Ці не з тае прычыны так цяжка ідзе новая «беларусізацыя» з яе плачэўнымі вынікамі? І ці не таму яна (камунізаваная інтэлігенцыя) была такой індыферэнтнай да ўсіх сацыяльна-культурных катаклізмаў перабудовы?

А прыезджыя з-за мяжы «лекары»... За мяжой, як і ўсюды, жывуць розныя людзі. У эміграцыі памерлі В. Някрасаў, А. Галіч, жывуць А. Салжаніцын, а таксама новыя «вучыцелі» У. Максімаў, А. Зіноўеў, злюмпенізаваны аўтар знакамітага «Эдзічкі» — Э. Лімонаў... Найбольш імкнуцца вучыць і прыязджаюць з-за мяжы якраз тыя, хто найменш таго варты.

— *Дарэчы — пра беларускую эміграцыю. На першым Міжнародным кангрэсе беларусістаў у траўні 1991 года вы казалі, што наша эміграцыя можа стаць ашчаднікам нацыянальнай існасці. Ці не перабольшаныя спадзяванні на замежжа?*

— Вядома, беларуская дыяспара таксама розная ў сваіх маральна-палітычных якасцях, але, наколькі я разумею, для нас яна куды даражэйшая за ўсе іншыя дыяспары. Прынамсі, яе самыя сумленныя і актыўныя прадстаўнікі, асабліва за акіянам. Усё ж у часы тутэйшага «бязладдзя і бязмоўя» яны захавалі родную мову, рэшткі нацыянальнай культуры, гістарычную памяць, зберaглі хрысціянскую мараль, непадлеглую там бальшавізацыі ды расчалавечанню, і што маглі, рабілі для развіцця культуры. (Адзін Данчык чаго варты! А там яшчэ ёсць Белямук, Кіпель, Запруднік, Шукелойц і іншыя.)

З грузам для нашых чарнобыльскіх небаракаў некалькі разоў прыязджаў айцец А. Надсан. Варта будзе нагадаць, колькі бруду — вулічнага і псеўданавуковага — было выліта на сівую галаву гэтага рупліўца са старонак камуністычных выданняў. І завошта, у імя чаго? Мабыць, таму, што патрэбны былі знешнія ворагі, шмат ворагаў, каб, змагаючыся з імі, апраўдаць паразітычнае існаванне антынародных структур КДБ, ВПК, МУС, ГРУ, розных першых аддзелаў і тысяч штатных ды самадзейных сексотаў... А цяпер во — прымаем з рук святара прывезеныя з-за мяжы лекі...

*— Зусім нядаўна мы лічылі, што дастаткова будзе асэнсаваць сталінізм і больш не застанецца «белых плям» у нашай гісторыі (дакладней — у нашым яе разуменні). Аднак жа, «развянчаўшы» сталінізм, грамадская думка пайшла далей раскопваць «кар'ер» нашай мінуўшчыны... Усё часцей нанова ўздымаецца тэма Вялікай Айчыннай вайны. Разуменне гэтай вайны, бадай, найдаўжэй заставалася дастаткова адназначным. Цяпер жа гучаць выказванні, што не ўсё так адназначна «гераічна» ў гісторыі партызанскага руху, у дзейнасці мясцовай адміністрацыі з ліку нацыянальна свядомых дзеячаў і інш. Ці можна прагназаваць далейшае развіццё «тэмы вайны» да радыкальнай, ці не палярнай змены ацэнак?*

— Мабыць, сапраўды не ўсё так адназначна. Асабліва што датычыць вайны.

Найперш маральны яе бок, у параўнанні з новай вайной, афганскай. Ужо на першы погляд кідаюцца ў вочы дзівосныя аналогіі і антытэзы, дыялектычная зменлівасць ці аднаснасць, здавалася б, абсалютна безадносных ісцін. Тое, што мы прызвычаіліся лічыць злом, рабілася дабром, і наадварот. Звыклыя для нас партызаны, ніколькі не губляючы свае традыцыйнае існасці, у чужой краіне ператварыліся ў загадкавых душманаў, а ненавісныя, да зубоў узброеныя карнікі — у «наших славных парней, честно исполняющих свой интернациональ-

ный долг». У гэтым сэнсе, мабыць, было б цікава сутыкнуць разам якога-небудзь старога бацьку, беларускага партызана, і яго маладога сына-«афганца» — цікавая, мабыць, атрымалася б размова...

Зразумела, што ў мінулай вялікай вайне засталося шмат «белых плямаў», якія тояць розныя ацэнкі. Але ва ўмовах таталітарызму высветліць усе іх не было магчымасці. І не толькі з прычыны жорсткай цэнзуры і празмерна абачлівай рэдактуры: таксама і ў сілу абмежаванасці нашага светапогляду. Менавіта той светапогляд абавязваў да пэўнай «кананізацыі» тэмы, пераступіць цераз якую не было дадзена нашым пакаленням. Пэўна, тое зробяць мастакі наступнага веку. Дай ім Бог таго, што не было дадзена нам.

— *Гісторыя паказвае, што ад пачатку (з часоў Рагнеды) продкі беларусаў былі асуджаны на выпрабаванні, можна сказаць, у тым наш кон. І сёння, напрыканцы тысячагоддзя, здаецца, што наш народ ужо нічым нельга перамагчы — пасля тае, спрэс крывавае гісторыі, пасля апошняе вайны, пасля Чарнобыля... Народ жыве. Традыцыйна лічыцца, што самы трывалы імунітэт на выжыванне — у яўрэйскага народа. Але па сутнасці* беларусы *ёсць тая нацыя, якая, жывучы на сваёй зямлі ў якасці пакутнікаў, знайшла сабе апірышча не на грунце і не ў вандраваннях-перасоўваннях, а — ва ўнутранай беларушчыне. МЫ ЗДОЛЕЛІ ЗАХАВАЦЬ БЕЛАРУСКАСЦЬ «САМУ ПА САБЕ». Усё часцей паўтараецца думка, што беларусы паступова ператвараюцца ў ЗВЫШНАЦЫЮ, якая можа пераўзысці астатнія па трываласці...*

— Во і ў вас пачулася тое, пра што я толькі сказаў: аптымізм фіналу, абавязковы спадзяванак у заключэнне... Не сумняваючыся ў вашым сцвярджэнні, я, тым не менш, не адчуваю і вялікай упэўненасці. Верагоднасць выжывання беларускай нацыі ў сучасных умовах вельмі праблематычная. З'явіўся некаторы шанец, але ўсё яшчэ даволі хліпкі: д'ябальскі баланс

дабра і зла захоўваецца. Дэкларавалі суверэнітэт, але абваліўся згубны эканамічны крызіс, з'явілася легітымнасць дзяржаўнай улады, ды здарыўся Чарнобыль... Відавочна, што ўсе праблемы — і эканамічная, і культурная, і моўная — упіраюцца ў самую галоўную праблему — дзяржаўны суверэнітэт. БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСЬ — БУДЗЕ ЎСЁ. У ТЫМ ЛІКУ МОВА І КУЛЬТУРА. НЕ БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ — ХУТКА НЕ БУДЗЕ НІЧОГА. Гісторыя, здаецца, ужо даволі нас у тым пераканала...

## Дыялог трэці — вусны

### СПАКУСА ТАННАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ...

*— Незалежнасць краіны сталюецца ўласнай, незалежнай палітыкай. Для Беларусі гэтае паняцце пакуль жа больш фантом, чым рэальны чыннік...*

— Тое, што ў нас няма ўласнай палітыкі,— самая прыкрая рэч. Тут мы вяртаемся да думкі, што нацыянальная ідэя павінна апярэджваць масавую свядомасць. Масавая свядомасць і ідэі, за якія варта змагацца,— не адно і тое ж. Масавая свядомасць заўсёды адстае ад іх, і яе мусіць актывізаваць менавіта нацыянальна-дэмакратычны рух.

*— Але хвалюе надыходзячая змена пакаленняў у адраджэнскім руху. На змену сённяшнім ідэолагам і палітыкам Адраджэння, здаецца (хацелася б памыліцца), няма каму прыйсці, бо генерацыя 60—70-х гадоў у значнай ступені пазбаўлена нацыянальнай свядомасці і з-за таго — адраджэнскай матывацыі грамадскіх паводзін. Прыход новага пакалення можа адыграць фатальную ролю ў далейшым развіцці нацыянальнага руху...*

— Правільна.

*— І таму, мне здаецца, каб нечага дамагчыся ў пасоўванні нацыянальнай ідэі, непазбежны перагіб у сэнсе беларускага «нацыяналізму». Што, натуральна, выкліча і выклікае закіды з боку тутэйшых «касмапалітычных» дэмакратаў — наконт прававой дыскрымінацыі іншых народнасцей, што жывуць у рэспубліцы.*

— Гэта, відаць, непазбежна, таму што кожны аслаблены рух часта звяртаецца да такога радыкалізму, які быў бы непатрэбны, калі б сам рух меў значную сілу. У гэтай сувязі можна яшчэ пачуць сумненні наконт сумяшчэння нацыяналізму і дэмакратыі.

Трэба праясніць гэтыя два тэрміны, бо бывае розны нацыяналізм, гэтаксама як рознай бывае і дэмакратыя. Я разумею гэтую рознасць у меры таго і другога. Нацыяналізм вялікай нацыі непазбежна перараджаецца ў шавінізм і імперыялізм, а нацыяналізм малой нацыі, якім бы ён ні быў, накіраваны перш за ўсё на выжыванне сваёй нацыі сярод іншых.

Калі паглядзець на гісторыю Еўропы, дык мы ўбачым, што ў пэўных гістарычных варунках «нармальны» нацыяналізм выдатна спалучаецца з дэмакратыяй. Дзяржаўнасць краін Заходняе Еўропы так ці інакш заснавана на нацыянальнай ідэі, апроч хіба што Швейцарыі. Астатнія дзяржавы арганізаваліся паводле этнічнага раскладу, і іхні нацыяналізм ажыццяўляецца ў разумнай меры, не пасягаючы на інтарэсы іншых нацый. Чаму Беларусь, з'яўляючыся еўрапейскай дзяржавай, не можа пабудаваць свой лад?

Што датычыць Беларусі, дык тут да «нацыяналістычнай празмернасці» яшчэ вельмі далёка... Беларусь усё-такі ідзе за іншымі нацыямі, перш за ўсё — за прыбалтамі. Гэты «хвасцізм», натуральна, выклікае шмат нараканняў, незадаволенасці з боку радыкалаў, але ён жа дае і пэўныя перавагі, бо засцерагае ад памылак: асноўную рызыку бяруць на сябе першапраходцы, а мы карыстаемся іх вопытам.

Зрэшты, у нас не такая актыўная і апазіцыя нацыянальнаму руху, як у Прыбалтыцы. Там, як вы помніце, вялася лютая барацьба, антынацыянальныя сілы выступалі вельмі жорстка — калі рэспублікі Балтыі яшчэ ўваходзілі ў склад Савецкага Саюза. Але гэтая барацьба з цягам часу зменшылася, суціхла. Думаецца, што гэтак жа сітуацыя будзе развівацца і ў нас (тым больш што беларусы складаюць каля 78% насельніцтва рэспублікі, у той час як у Прыбалтыцы карэннага насельніцтва значна меней, каля паловы ад агульнай колькасці жыхароў рэспублік).

Калі Беларусь і надалей будзе існаваць ва ўмовах абсалютнай суверэннасці і ў яе справы не будзе ўмешвацца імперская палітыка Расіі,— працэс дзяржаўнага будаўніцтва ў нас будзе праходзіць, так бы мовіць, у залагоджаным выглядзе.

*— Але ці не перашкодзіць нам наша собская, «унутраная апазіцыя» ўласным жа памкненням да волі і незалежнасці? За часы таталітарызму нацыя адхінулася не толькі ад рэлігіі, але ў значнай ступені (ці не больш) і ад нацыянальнай ідэі...*

— Таму я і лічу нацыяналізм выратавальнай ідэалогіяй на сучасным этапе беларускай гісторыі.

Што датычыць культуры, дык яе нацыянальны пласт вельмі тонкі, ён не так багата быў напрацаваны ў мінулым, а за часы дэнацыяналізацыі зменшыўся яшчэ больш. Ва ўмовах суверэннасці, відавочна, напрацоўка культуры будзе ісці вельмі актыўна, таму што беларусы як этнас далёка не рэалізаваліся. ГАЛОЎНАЕ — КАБ НАМ НЕ ПЕРАШКАДЖАЛІ, бо культура не можа прадуктыўна развівацца, калі льецца кроў і навокал галеча.

Аднак жа першасная роля ў Адраджэнні належыць палітычным пераўтварэнням, перш за ўсё праз іх «нацыяналізм» пасунецца далей, у эканамічную і культурную прастору.

*— Кажучы пра выратавальнасць незалежніцкага нацыяналізму і радыкалізму, мы неяк абыходзім пы-*

*танне выдаткаў, ПЛАТЫ за свабоду. Вы, Васіль Уладзіміравіч, адзін з нямногіх нацыянальных лідэраў, хто не баіцца прадказваць грамадству цяжкія выпрабаванні на шляху да незалежнасці. Няўжо пакутлівыя выдаткі настолькі непазбежныя?*

— Усё значнае патрабуе платы, у тым ліку і незалежнасць. Вы не задумваліся, што незалежнасць Беларусі фактычна падаравалі? Гэта танная незалежнасць...

Мы ведаем з гісторыі, што многія народы за сваю незалежнасць пралілі мора крыві. У нас жа гэта адбылося без асаблівых высілкаў і вялікіх дэбатаў (маю на ўвазе прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце). Відаць, незалежнасць патрабуе другой цаны, другой платы. Напэўна, і эканамічных выпрабаванняў — самых жорсткіх... Такі стан рэчаў не залежыць ад чыёйсьці злой волі альбо недагляду: тут дзейнічаюць гістарычныя прычыны. Будзе яшчэ шмат тупікоў і пастак... Калі нацыя мае волю да незалежнасці, яна з іх выберацца; калі ж на пачатку дарогі карціць вярнуцца назад,— тады, можа, і не варта было на гэты шлях ступаць...

* * *

*P.S.* На развітанне я запытаўся ў Васіля Уладзіміравіча пра ўзаемаадносіны Творцы і Улады і магчымасць іх прымірэння. У адказ мастак працытаваў горкаўскага героя Саціна: «Человек ценен своим сопротивлением силе жизни» і дадаў, што высока цэніць жыццёвую і творчую пазіцыі французскіх пісьменнікаў-экзістэнцыялістаў Ж.- П. Сартра і А. Камю. «Відаць, творца асуджаны на сталае супрацьстаянне з уладай. Для сумленнага мастака гэта, мабыць, непазбежна...»

І мне, прагнучаму вычарпальнай зразумеласці ў сваім часе і ў сучасніках, стала зразумелым, што апантаная палітычная творчасць — часавы кон мастака, творчая ахвяра дзеля «разводу» палітыкі і літаратуры, вызваленне Таленту з-пад апякунства Уладай...

# «МЫ — АПОШНІЯ. ЗА НАМІ ЧАРГА...»

Дыялог-1993

* * *

— *Васіль Уладзіміравіч, прамінуў год ад нашае гутаркі ў лютым 1992 года. Тады мы спрабавалі знайсці «аптымістычны зыход» у развіцці беларускага грамадства, што неспадзявана апынулася ў варунках незалежнасці... Вынікі пошуку аказаліся пераважна песімістычнымі. Як бы вы сёння, калі абстрагавацца ад «агульнага песімізму», што абумоўлены эканамічным крызісам і да т. п., ацанілі грамадскую вартасць пражытых Беларуссю паўтара года: гэта было сапраўднае набліжэнне да суверэннасці, з непазбежнымі на тым шляху выпрабаваннямі, ці, па большасці,— «гульня ў словы» на фоне выпрабаванняў?*

— Як паказаў час, гэта была чысцейшай вады імітацыя, палітычны фарс, якія ні на крок не наблізілі дзяржаву да суверэннасці. Мабыць, для таго набліжэння патрэбны тытанічныя высілкі грамадства, а найперш ягоных дзяржаўных структураў, дзейнасць якіх на справе патанула ў бюракратычнай стыхіі слоў, спрэчак, пустых непатрэбных законаў, што ніхто і не думае ператвараць у жыццё. Быў страчаны час. Наша кіруючая наменклатура на шмат месяцаў затаілася ў чаканні — спярша восені і расейскага з'езда народных дэпутатаў, які меўся рэанімаваць імперыю, пасля — вырашэння найважнейшага для яе пытання аб КПБ. Першая яе доўгачаканка мала што вырашыла, затое другая вызначыла ўсё. Далей можна было не спяшацца: элементарная логіка падзей, атрымаўшы такі значны палітычны імпульс, сама па сабе здольна прывесці да мэты. Тым болей што дарожка знаёмая, добра

пратаптаная за семдзесят год камуністычнага панавання, і вяртацца па ёй на ўлюбёныя камуністычныя абсягі — адно задавальненне. Для партыйцаў, наменклатуры, ды і для людзей, згаладнелых без таннай каўбасы і напалоханых «жахлівым» беларускамоўем.

*— Пакольк ў нас дыялог, дык дазволю сабе выказаць пэўную «версію» і, адпаведна, пачуць ваша меркаванне. Мне здаецца, г. зв. гарбачоўская «перабудова», што неспадзявана адышла ў гісторыю, па сутнасці давала нацыянальным ускрайкам СССР, самой Расіі рэдкі, унікальны шанец самастойнага наладжвання дэмакратычнага працэсу, дэкамунізацыі рэспублік. Шанец — пэўным палітычным сілам у рэгіёнах, прычым шанец, які трэба было скарыстоўваць не марудзячы. Амаль паўсюдна так і адбылося: у Прыбалтыцы, на Украіне, у Расіі (безумоўна, кожны выпадак вымагае агаворак, але справа ў сутнасці). Беларусь жа толькі марудна паўтарала працэсы, што адбываліся ў суседзяў, каб, пэўна, не апынуцца спаміж іх гэткім палітычным рэтраградам (агаворымся, што апазіцыйны рух БНФ нічым не саступаў падобным рухам у бліжнім замежжы, хіба толькі тым, што не прыйшоў да ўлады). Цяпер, калі адпала неабходнасць імітаваць дэмакратызацыю, палітычная сістэма на Беларусі, на мой погляд, як бы замкнулася «на сябе», амаль тоесна аднавіўшы тую мадэль кіравання грамадствам, якая існавала да «перабудовы».*

*Чаму, на вашу думку, камуністычная традыцыя так трывала — як нідзе, бадай, на абшарах былога СССР — усталявалася менавіта ў Беларусі, захаваўшы выключную здольнасць да самаўзнаўлення?*

— Тут уся справа ў недастатковым узроўні нацыянальнай самасвядомасці беларускага грамадства.

У той час як у іншых рэспубліках былога СССР галоўнаю палітычнай сілай у справе самавызначэння выступілі найперш нацыянальныя сілы, у Беларусі

такія сілы паявіліся запознена, ужо ў ходзе суверэнізацыі, да якой па сутнасці яны не былі гатовы. У нас адсутнічаў нацыянальнасведамы авангард. БНФ утварыўся толькі ў канцы 1988 года, і наменклатура адразу ўцягнула яго ў дробязныя сваркі наконт яго-ных жа мэтаў, палітычнага і асабістага іміджу яго лідэраў, усяляк іх дыскрэдытуючы. Шмат часу таксама адабрала бясплённая дыскусія аб мове. Яшчэ і дагэтуль нацыянальная дэмакратыя траціць пэўныя высілкі на доказ аксіяматычных рэчаў накшталт важнасці мовы ў нацыянальнай дзяржаве і шкодзе дзяржаўнага двухмоўя. Герб і сцяг краіны былі неяк прыняты, але цяпер грамадства рызыкуе быць уцягненым у дыскусію аб неабходнасці новага гімна... Ствараецца ўражанне, што антыдэмакратычныя сілы сістэматычна выкідваюць адмысловыя чырвоныя шматкі, каб махаць імі перад нацыянальнай свядомасцю беларусаў, у той час як самі за палітычнымі кулісамі распрацоўваюць дэталёвыя сцэнарыі накшталт рэанімацыі КПБ, што адбываецца раптам і з поўным поспехам... Беларусь была і застаецца камуністычным фарпостам на заходніх рубяжах расейскай імперыі, і ў тым яе гістарычнае няшчасце.

— *Незваротнасць дэкамунізацыі любой краіны залежыць, пэўна, перш за ўсё ад* стану духу, *пазіцыі інтэлігенцыі (творчай эліты, скажам так на заходні капыл). У свой час, увосень 1989 года, мяне ўразіла борздкасць дэмакратычнага шэсця па краінах Усходняй Еўропы, узнясенне Вацлава Гавэла ў Чэхаславаччыне, хуткае ўз'яднанне Германіі... Акрамя складаных паліталагічных вызначэнняў тых падзей іх можна вызначыць і проста — як вяртанне грамадства да здаровага сэнсу і элементарнай справядлівасці. Спрыяла таму воля — палітычная і духоўная воля найперш — інтэлігенцыі тых краін. Вопыт дэкамунізацыі краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы засведчыў, бадай, ролю самой нацыянальнай інтэліген-*

*цыі ў гэтым працэсе — як ролю ініцыятара і рухальніка пераўтварэнняў, за якім ідзе, да якога прыслухоўваецца, з каго бярэ прыклад астатняя частка жыхарства.*

*Зусім не хацеў бы сцвердзіць, што беларуская інтэлігенцыя якаясьці «непаўнавартасная». Наадварот, мне здаецца, што нават тымі сіламі нацыянальнай інтэлігенцыі, якія меліся, калі б яны ў свой час і заўсёдна падтрымалі справу Беларускага Народнага Фронту,— можна было дамагчыся шмат болей ва ўсталяванні дэмакратычнай дзяржаўнасці і нацыянальнай волі ў сферы культуры. Аднак жа чаму, на вашу думку, належнай падтрымкі краёвай інтэлігенцыі БНФ не атрымаў?*

— Уся справа ў тым, што ў таталітарным грамадстве не можа быць не толькі дэмакратычнай, але і колькі-небудзь незалежнай інтэлігенцыі (вядома, у яе агульнапрынятым разуменні). Частка грамадства, якая здабывала свой хлеб не фізічнай, а разумовай ці творчай працай, была цалкам на дзяржаўным утрыманні: пісьменнікі — праз спрэс дзяржаўныя выдавецтвы і выданні, мастакі — сістэму закупу дзяржавай іх твораў; вучоныя ды інжынерна-тэхнічныя кадры, акадэмічныя інстытуты — былі спрэс ангажаваны ВПК, дзе працавалі на ўзбраенне ці на ідэалагічнае забеспячэнне таталітарызму. Усе разам былі з'яднаны універсальнай камуністычнай ідэалогіяй праз членства ў КПСС і яе разгалінаваныя структуры. У гэтай сістэме ім жылося няблага, трэба было толькі заплюшчыць вочы на жыццё народа ды паслухмяна выконваць волю любімай партыі. Для яшчэ болей татальнага ахопу існавала сістэма карных органаў, калі вялізная частка інтэлігенцыі (таксама як рабочага класа, сялянства) надзейна трапіла ў іхнія картатэкі ў якасці «добраахвотных памочнікаў». Вядома, не ўсе тыя «памочнікі» займаліся даносамі і правакацыямі, мабыць, былі і тыя, што не любілі свае «добраахвотнае» справы. Але

ўжо ў сілу свайго далучэння да самага сакрэтнага, страшнага і таемнага яны былі надзейна пазбаўлены грамадзянскай волі і ні да якога БНФ далучыцца не маглі і марыць. Адбываўся дзівосны па сваёй фантастычнасці працэс ператварэння грамадзян у камуністычных зомбі, які ў адносінах да нацыянальнай інтэлігенцыі шмат у чым скончыўся паспяхова. Страх як сродак не толькі самазахавання, але і пэўнага дабрабыту вызначыў поўны сервілізм гэтае часткі нацыі, надзейнае служкі таталітарнага рэжыму.

*— Але ў нашай савецкай краіне, здаецца, прайшла перабудова, пэўны час усталёўваліся галоснасць і плюралізм (хай і «зверху»), што даволі прачысцілі «кароткакурсавыя» мазгі ўсяго грамадства, а тым болей інтэлігенцыі. Апроч таго, ці не пяты год (ад тае восені 1988-га) гаворым пра Адраджэнне, і гаворым вельмі нават патрыятычныя, узнёслыя рэчы... Няўжо ўсё гэта, у сукупнасці ўзятае, ані не магло змяніць сервілісцкае псіхалогіі інтэлігенцыі, не паспрыяе выпрацоўцы яе незалежнай, дэмакратычнай пазіцыі цяпер?*

— Цяпер, ва ўмовах камуністычнай рэстаўрацыі, я думаю, яшчэ болей абсурдна чакаць дэмакратычнай або нацыянальнай актывізацыі беларускай інтэлігенцыі. Найболей таленавітая і сумленная яе частка апынецца ў стане бязвер'я, зойме зручную пазіцыю маўклівай «унутранай эміграцыі», другая ж, што мае нязначныя творчыя здольнасці або толькі імітуе іх, з радасцю кінецца ў абдымкі да КПБ. Тым болей што гэта апошняя вяртаецца з вымушаных вакацый, набраўшыся новае моцы і з заўжды ўласцівай ёй дзелавітасцю. Напэўна ж, яшчэ ў яе нямала прыхаваных у свой час грашовых сродкаў, якімі яна неяк падзеліцца і са сваімі добраахвотнымі памагатымі...

*— У сваіх развагах, бачу, вы схіляецеся да выказанай раней думкі наконт патрэбы змены пакаленняў — каб пазбавіцца камуністычнай ментальнасці.*

*Шлях з камунізму, відаць, ідзе нейкімі этапамі; час ад часу з'яўляюцца людзі, што ўзыходзяць на грамадскую трыбуну і імкнуцца хоць трошкі перасунуць наперад свядомасць сучаснікаў.*

*Досыць эфектыўную ролю ў справе разавага «ачалавечання» савецкай сістэмы адыграла пакаленне шасцідзесятнікаў, праз якое цяперашнія палітыкі пераступаюць... Вам, Васіль Уладзіміравіч, бачацца людзі, наступнікі шасцідзесятнікаў, хто ў межах нацыянальных дзяржаў можа ў бліжэйшым часе адыграць падобную «гуманізатарскую» ролю?*

— На маю думку, няварта асабліва дакараць шасцідзесятнікаў, як гэта робяць некаторыя маскоўскія дэмакраты. Усё ж менавіта шасцідзесятнікі ў цяжкіх варунках таталітарнай сістэмы неяк ураталі гонар найперш расейскай дэмакратыі. Цяпер, як вядома, тая дэмакратыя трапіла ў жахлівую крызу, апынулася на мяжы магчымасцяў уласнага існавання і невядома, ці ўратуе ад дыскрэдытацыі ўласныя ідэі. Але ўсё ж у гісторыі дэмакратычнага руху застануцца светлыя імёны яе рыцараў, людзей перадавой гуманістычнай думкі, такіх, як Ю. Афанасьеў, А. Бонэр, Ю. Каракін, наш зямляк А. Адамовіч ды некаторыя іншыя. Шкада, іх мала, але, трэба спадзявацца, некалі будзе болей. У тым ліку і на Беларусі.

— *Відаць, акрамя палітычных, ёсць і аб'ектыўныя, абумоўленыя станам і развіццём культуры прычыны нямасавасці адраджэнскага руху беларусаў. Бадай, галоўная з іх — падкаланіяльнае існаванне беларускай культуры ў XX стагоддзі, існаванне ПАД культураю расейскай. Вы неяк заўважылі, што за савецкі час некалькі пакаленняў беларусаў прайшло міма сапраўднай нацыянальнай культуры, ці не большасць здабыткаў якой засталося ў мінулым, было вынесена за межы культурнага жыцця грамадства. Такім чынам, выраслі пакаленні людзей, што навучыліся існаваць па-за культурай.*

*Адраджэнне ж — не што іншае, як вяртанне да культуры. Як вы лічыце, разважаючы над прычынамі цяжкасцей гэтага руху, ці не задужа беларускія руплівцы ігнаруюць* аб'ектыўны *характар перашкод на іх шляху? Аб'ектыўны — г. зн. не залежны ад волі, маралі і зла- ці дабранамераў паасобных людзей альбо суполак...*

— Так, шмат якія пакаленні беларусаў выхоўваліся ў сферы расейскай культуры, што, як і кожная нацыянальная культура, вядома, мае свае значныя і нават вялікія здабыткі. Увогуле, гэта было б і няблага, асабліва калі ўлічыць, што ў тых умовах менавіта праз расейскую мову і культуру ў значнай меры ішло далучэнне беларусаў да здабыткаў сусветнай культуры. Але тут ёсць і пэўная нелагічнасць: з таго працэсу была найперш выключана свая, нацыянальная культура, якой належала стаць грунтам, падмуркам усяго грамадскага працэсу — як і ў кожным цывілізаваным грамадстве. Нармальны працэс культурнага развіцця павінны быў выглядаць так: спярша ў самым поўным аб'ёме — уласная культура, затым іншыя — расейская, нямецкая, польская, ангельская — чым болей, тым лепш, наколькі хапае да таго здольнасцяў грамадства ці асобнага яго члена. Таго, аднак, не адбылося. Або адбылося зусім інакш — аднабакова, ненармальна, што садзейнічала ўтварэнню асаблівага, мутантнага генатыпу, маргінальнага ў культурных адносінах, няздольнага да ўспрыняцця сучаснай гуманістычнай культуры наогул.

Нашы палітычныя партыі (найперш, вядома, БНФ) з самага пачатку свае дзейнасці паставілі задачу культурнага адраджэння нацыі. Вядома, задачу высакародную, але і надта праблематычную ўжо хоць бы з тае прычыны, што ажыццяўлялася яна не на зусім прыдатным для таго матэрыяле. Не падмацаваная нацыянальнай самасвядомасцю народа, яна ўжо ўпачатку абяцала марудна і безвынікова сканаць. Відавочна, палітычныя прыярытэты некаторых дэмакратычных

партый былі вызначаны неабачліва, а сілы для іх ажыццяўлення аказаліся абмежаванымі. Зноў жа, відаць, не была ўлічана мера супраціву антынацыянальных сілаў, іх шматгадовая спрактыкаванасць у барацьбе з нацыянальным. Так, каб перамагчы ў вялікім, яны пайшлі на ўступкі ў меншым, дазволіўшы прыняць хоць бы рэлятывісцкі закон аб мовах, добра ведаючы, што выконвацца ён не будзе. Цяпер яны навязваюць нацыі абсурдную дыскусію аб двухмоўі. Вядома, у аснове таго абсурду ляжыць пэўны разлік. Нацыянальнасведамая частка грамадства наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг дзвюх граматык — Тарашкевічавай і наркомаўкі, дыскутуючы аб разыходжанні ў трактоўцы мяккасці падвоеных зычных, а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўсталяваць расейскае аднамоўе. Прапагандысцкім прыкрыццём тае акцыі займаюцца сацыялагічныя інстытуты і агенцтвы, што сядзяць на ўтрыманні ўрада і ў любы момант з высмактанымі з пальцаў лічбамі могуць даказаць, што беларусы — супраць беларускай мовы, а КПБ — самая папулярная сярод іх партыя...

*— Хуткасць і, я б сказаў, татальнасць камуністычнай рэстаўрацыі могуць сведчыць толькі пра адно — што пяць год, патрачаных на перабудову, спробы эканамічных і палітычных рэформ, не змянілі духу дзяржавы. Мадэль кіравання дзяржавай застаецца ранейшай, этакратычнай, дух дзяржавы — камуністычным. Але наперадзе ў Беларусі новыя выбары ў парламент і выбары прэзідэнта. Якой, на вашу думку, павінна быць палітычная тактыка нацыянальна-дэмакратычных сілаў на бліжэйшую перспектыву, каб — ва ўмовах апатыі грамадства — утрымаць ужо здабытыя пазіцыі?*

— Тактыка можа быць толькі адна — аб'яднанне ўсіх дэмакратычных сілаў у адзіны блок. Бо антыдэ-

макратычныя сілы — КПБ, ПКБ, іншыя групоўкі, што да іх прымыкаюць,— актыўна гуртуюцца. Гэта вымагае эфектыўнага процідзеяння з боку сілаў дэмакратычных*.

— *Разважаючы над вашай творчасцю, прыходзіш да думкі, што аўтар твора, у якім вымаляваны псіхалагічныя тыпы беларусаў XX стагоддзя — Пятрок і Сцепаніда са «Знака бяды», — павінен пайсці рэтраспектыўным шляхам, у даўнейшую гісторыю, з якое вырастаюць гэтыя тыпы. НЕШТА ж павінна было так абязволіць беларускіх мужчын, зламаць іх волю да змагання за вольнае жыццё, і, адпаведна, знешчасліваць жанчын, чыя доля пад чужынцамі была асабліва гаротнай... (Між іншым, скора спаўняецца два стагоддзі падкаланіяльнага існавання Беларусі, калі браць за адлік 1795 год — год трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай.) Ваш мастакоўскі «магістрал», Васіль Уладзіміравіч, ці не скіроўваецца туды, у гісторыю сярэднявечча?*

— На жаль ці на шчасце, я не плану́ю сваёй творчасці, якая ў мяне мае хутчэй імпульсіўны характар. Усё ж гісторыя — не мая парафія, тут я не валодаю патрэбнымі сродкамі і таму не бяруся за справу, у якой не ўпэўнены.

— *У першым нумары часопіса «Полымя» за гэты год чытач пазнаёміўся з вашай новай ваеннай аповесцю «Сцюжа», пад якой пазначаны даты «1969; 1991». Ці азначае гэта, што пісьменнік яшчэ мае рахунак з вайной і не да канца яго сплаціў?*

— А гэта вельмі проста. «Сцюжу» я пачаў менавіта ў

* *Далейшыя падзеі цалкам пацвердзілі слушнасць меркавання В. Быкава. На жаль, улетку 1994 года, падчас кампаніі па выбарах прэзідэнта, дэмакратычныя сілы не здолелі аб'яднацца ў адзіны блок, у выніку чаго шансы на перамогу двух дэмакратычных кандыдатаў — З. Пазьняка і С. Шушкевіча — аказаліся значна зменшанымі. — Ю. З.*

1969 годзе, дапісаў да паловы і кінуў, зразумеўшы, што надрукаваць яе будзе немагчыма. А калі і надрукуеш, дык не парадуешся. Дапісаў яе ў 1991 годзе.

*— Паколькі гутарым мы ў час падрыхтоўкі святкавання ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, у якой вы ўдзельнічаеце як сябра аргкамітэта святкавання, дык, на вашу думку, наколькі істотна на палітычную свядомасць беларусаў можа паўплываць гэтая дата — па сутнасці, эпізод у віры падзей 1917—1921 гадоў?*

— Так, гэта эпізод у нашай гісторыі, але эпізод вельмі важны. Можа, без таго эпізоду не было б і падзеі 1991 года, не ўваскрэсла б сама надзея на якуюнебудзь дзяржаўнасць. Абвяшчэнне БНР у 1918 годзе само па сабе было актам болей сімвалічным, бо за ім не паследавала якіх-небудзь грамадскіх пераўтварэнняў. Але гэты акт увасобіў у сабе нацыянальна-дэмакратычны патэнцыял беларусаў, рэанімаваў важнейшую ідэю і заклаў падмурак. Нягледзячы на пэўныя няўдачы ў будучым, ідэя жыла, а значыць, была жывая і надзея на яе адраджэнне. Яна жыве і цяпер, даючы моцы новым пакаленням беларусаў стрываць усё і дамагчыся жаданага. Таго, што ўжо дамагліся ўсе народы Еўропы. Мы — апошнія. За намі чарга...



У хвіліну задумення. Рабочы кабінет.
*Снежань 1991*



Выступленне на свяце беларускай вайсковай славы.
*Верасень 1992*



Быкаву — 70. Мінскі парк Янкі Купалы.
*19 чэрвеня 1994*



76-я ўгодкі БНР.
Інтэрв'ю журналісту С. Плыткевічу.
*Сакавік 1994*



На свяце каранацыі Вітаўта Вялікага ў Доме літаратара.
Поруч В. Быкаў, З. Пазьняк, а. М. Сапель.
*Снежань 1992*



На III з'ездзе БНФ «Адраджэньне»:
В. Быкаў, А. Анішчык, А. Грыцкевіч.
*Травень 1993*



«...А душа баліць тым жа».
Сустрэча з чытачамі, Палац культуры чыгуначнікаў.
*Менск. Травень 1993*

# ЛІТАРАТУРА НА КРАЁЧКУ ЧАСУ*

5 мая ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Мінску Беларускі ПЭН-цэнтр наладзіў вечар-сустрэчу з Васілём Быкавым. Фактычна, адбылася звыклая сустрэча чытачоў з пісьменнікам, на якой пісьменнік адказваў на пытанні прыхільнікаў сваёй творчасці, што паступалі ў пісьмовай форме і праз мікрафоны з залы (нешта накшталт колішніх астанкінскіх сустрэч), разважаў пра жыццё ўвогуле, дзяліўся сваімі поглядамі на стан і лёс літаратуры і мастацтва ў сучасных варунках.

«Як на споведзь...» — значылася ў запрашэнні ПЭН-цэнтра на гэты вечар. І сапраўды, Быкаў адказваў на пытанні, гаварыў канкрэтна, сцісла, але ёмка і шчыра. Хоць, падкрэслім, пытанні на асабістую тэму «прыходзілі» вельмі цяжка, пакуль зала ўрэшце не зразумела, што сваёй персонай пісьменнік апякуецца найменш. І, дарэчы, ён сам напачатку паўшчуваў вядучага вечара, прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна за празмерную гіпербалізацыю «апостальскай постаці» пісьменніка...

Пра што гаварыў Быкаў? Роскід пытанняў да пісьменніка быў самы шырокі (відаць, з-за разнастайнасці аўдыторыі — вучні, студэнты, навукоўцы, пенсіянеры і г. д.): ад «Якія сны вам сняцца найчасцей?» да — «Ці былі калі камуністам і ці захавалі партыйны білет?»...

Адступаючы ад канкрэтных пытанняў, у рэмарках, пісьменнік выказаўся, між іншым, у абарону пісьменніцкай свабоды і грамадзянскай годнасці С. Алексіевіч; высока ацаніў чалавечыя якасці З. Пазьняка; рэзка не-

---

* «ЛіМ», 14.05.1993.

гатыўна выказаўся наконт «пэўнай пазіцыі» Беларускага тэлебачання...

Але ўсё-такі галоўнае, на маю думку, было на сустрэчы іншае: за апошнія колькі гадоў гэта адна з *ПІСЬМЕННІЦКІХ сустрэч Быкава з грамадскасцю. Ён* і сам гэта адзначыў, падкрэсліўшы, што выказваецца іменна як прыватная асоба, як мастак, літаратар, а не палітычны дзеяч. Чаго-чаго, а палітыкі ў Быкава апошнім часам не бракавала... І вось — як быццам нешта добра знаёмае, прыемнае, але прызабытае... — пісьменнік гаворыць не пра палітыку і «тых з гэтымі», а — пра ЖЫЦЦЁ ЎВОГУЛЕ, пра Яе Вялікасць Літаратуру, пра магчымасць мастацкага ўвасаблення нашага часу. Ды каб звярнуцца з такім словам да людства, пісьменнік зараз мусіць — што нечувана ў гісторыі беларускай літаратуры! — АПЛАЦІЦЬ гэткую магчымасць: дзякуй, дапамагла сродкамі ПЭН-цэнтру вядомая наша фірма «Дайнова»... Але ж ссумаваўся чытач, літаратурна-мастацкая грамадскасць па такіх сустрэчах — гэта відавочна: у зале можна было бачыць скрозь работнікаў Інстытута літаратуры, выдавецтваў, рэдакцый, пісьменнікаў. Усё-такі адной палітыкай не жывы чалавек; мастацтва ў шырокім сэнсе, у тым ліку і самасвядомасць мастацтва і мастака,— застаецца духоўным апірышчам і выратавальнікам любога грамадства — і таталітарнага, і посттаталітарнага, і наогул... Быкаў у заключэнне і выказаў пажаданне чытачам не губляць сувязі з мастацтвам, нягледзячы ні на якія катаклізмы часу, заставацца вернымі высокай літаратуры. «Усё-такі цяперашні крызіс рана ці позна мінецца, і з новай сілаю ўзнікне патрэба высокага, духоўнага...» Блаславёныя словы! А мы зазначым, што пакуль у грамадства, у Беларусі ёсць такія мастакі, што дбаюць пра непарыўнасць людской духоўнасці, звязваюць духоўнасць учарашнюю і будучую ў адно,— такое грамадства цалкам яшчэ не безнадзейнае...

Такім чынам — што гаварыў Васіль Быкаў:

## ПРА ЛОГІКУ ГІСТОРЫІ, ЛЁС КУЛЬТУРЫ І ДОЛЮ ЧАЛАВЕКА

*(З уступнага слова)*

— У любой сістэме, ці то капіталістычнай, ці то сацыялістычнай,— заўсёды знойдзецца нейкі бок, які не на кшталт гэтай нацыі. Культура ў гэтыя гады перабудовы, у час звароту на натуральны эканамічны і палітычны шлях, якім ідзе ўвесь свет,— наша нацыянальная культура апынулася ў становішчы страшэнна цяжкім. Тут можа суцяшаць хіба той факт, што ў цяжкім становішчы апынулася ўсё грамадства. І ў тым ёсць віна ўсяго грамадства. Цяпер ужо абсалютна відавочна, што ў тым, што адбылося, не вінаваты ні Гарбачоў, ні Віскулі, ні сучаснае кіраўніцтва,— вінаваты пэўны выбар, зроблены не намі, зроблены ў 1917 годзе. У 1917 годзе наша грамадства звярнула з магістральнага шляху грамадскага развіцця некуды ўбок і праз вялікія намаганні, праз кроў і ахвяры ўрэшце ўперлася ў тупік. Цяпер выйсці з гэтага тупіка шчаслівым шляхам, відаць, не ўдасца, гэта пэўна: усім нацыям, якія маюць дачыненне да Вялікага Кастрычніка, трэба прынесці нейкія ахвяры. Што мы і робім.

Мы можам выказваць прэтэнзіі да сучаснага кіраўніцтва, да тых, хто цяпер жыве,— але з тых, хто цяпер жыве, не вінаваты ніхто. Важна зразумець, што шлях быў памылковы, што ішлі мы не туды, што развіццё ішло абсалютна антычалавечым чынам і трэба выбірацца... Як выбірацца — гэта ўжо іншая справа. Хочацца, канешне, выбірацца, не вяртаючыся назад, нейкім чынам пераскочыць у іншы цягнік. Але, відаць, гэта не выйдзе.

Мы бачым разбурэнне культуры, духоўнасці, не кажучы ўжо пра эканоміку, якая не можа існаваць і не будзе існаваць — і наўрад ці яе можна паправіць

нейкімі папраўкамі, кампрэсамі, доларавымі ін'екцыямі. Відаць, нічога не выйдзе. Тая эканоміка, што паказала сваю непаўнавартаснасць, павінна разбурыцца, і яна бурыцца, нягледзячы ні на якія захады. І толькі пасля яе разбурэння пачне прарастаць новая... Тая эканоміка, што існуе на Захадзе, можа даць чалавеку шмат што, калі не ўсё. Ну, усё, відаць, ні адно грамадства і ні адзін лад ніколі чалавеку не дадуць. Так ужо заведзена: чалавек застаецца нейкім чынам адзін на адзін з жыццём і — будзе цярпець...

А што культура? Мы стаім на тым, што культура павінна мець нацыянальную форму. Але ў сучасных варунках нацыянальная самабытнасць культуры з'яўляецца і яе моцным, і слабым месцам. Моцным у тым сэнсе, што гэта спрадвечнае; нацыянальнае, між іншым, гэта не тое, што дазволена або ўведзена дэкрэтам. Гэта, па-першае, біялагічнае, унаследаванае ад прыроды, дадзенае Богам... Тут не трэба, як гэта часам бывае, папракаць, што ў адных яно ў большай меры праяўляецца, у іншых — у меншай. Гэта ўжо як каму дадзена. Але гэта натуральнае пачуццё, такое самае, як пачуццё мацярынства, іншыя сакраментальныя пачуцці, закладзеныя ў чалавеку генетычным шляхам.

Адзіны спадзяванак цяпер — на тое, што нацыянальная культура неяк вытрымае, дзякуючы перш за ўсё свайму нацыянальнаму менталітэту. У беларусаў ёсць вопыт. Усё-такі, не маючы сваёй дзяржаўнасці на працягу стагоддзяў, намаганнямі мноства пакаленняў, і перш за ўсё апосталаў сваіх, беларусы захавалі сваю нацыянальную культуру. Былі перыяды, калі яна амаль зусім знікала. І тым не менш яна засталася. І таму, нават у сучасных умовах, у канцы XX стагоддзя, мы ўсё-такі думаем, што яна яшчэ затрымаецца на нейкім краёчку і адновіць свой натуральны працэс адраджэння і росквіту...

## ПРА ЛІТАРАТУРУ І ПАЛІТЫКУ

*(Пытанне: «О чём болит душа?»)*

— Душа ў пісьменніка баліць тым, чым і ў кожнага чалавека. Іншая справа, як літаратуры адносіцца да прыроды грамадства.

Цяпер, пасля празмернай ідэалагізацыі мастацтва і наогул культуры, што адбывалася на працягу многіх гадоў, наступіла іншая пара—дэідэалагізацыі. Мы слухаем па радыё і тэлебачанні, чытаем у газетах выступленні даволі разумных людзей, якія ўгаворваюць пісьменнікаў адысці ад палітыкі, перайсці на вечныя тэмы, на хараство прыроды, якая яшчэ захавалася,— на ўсё тое, што не звязана з палітыкай, з жыццём грамадства. Чытаць такія рэчы мне заўсёды сумна. Сумна, бо гэта—не для нашай літаратуры. Можа быць, на Захадзе, дзе сацыяльныя канфлікты невялікія, дзе чалавек дасягнуў многага—ну, калі не цалкам шчаслівага, дык хоць бы забяспечанага жыцця,— там палітызаваная літаратура патрэбна, можа быць, у меншай меры. Там літаратура можа дазволіць сабе захапляцца нейкімі драбніцамі жыцця, але каб у нас... Літаратура народа, які на працягу стагоддзяў вымушаны весці вось такое трагічнае жыццё,— як можа наша літаратура, мастацтва, культура—абстрагавацца ад гэтага пакутнага, трагічнага жыцця? Нават каб яна таго хацела, каб ставіла перад сабой такія мэты,— яны былі б немагчымымі для ажыццяўлення. ЖЫЦЦЁ БУДЗЕ ЎМЕШВАЦЦА, будзе ўладарна патрабаваць удзелу пісьменніка, мастака наогул — у грамадскім жыцці. Вядомыя радкі Някрасава з'яўляюцца ў гэтым сэнсе запаветам для пісьменніка. А ў выяўленчым мастацтве—як бы ні квітнела яно, выбраўшыся на свабоду,— усё-такі рэалістычнае мастацтва, перасоўнікі, для свайго часу і для гісторыі значаць куды як многа. І нашаму мастацтву самавыражэння, я думаю, далёка да гэтага...

А болі ўсё тыя ж, тыя самыя. І калі ўсё адбаліць — цяжка сказаць.

## ПРА ТАЛЕНТ І ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ

*(Пытанне: «Як суаднесці талент з грамадзянскай дзейнасцю пісьменніка?)*

— Апроч таленту ёсць яшчэ і маё грамадзянскае сэрца. Калі я бачу, што ў жыцці адбываецца несправядлівасць, ці магу я абысціся толькі літаратурнымі здольнасцямі, без палітычных памкненняў?

Талент — вельмі важна для гісторыі мастацтва, але для мяне суб'ектыўна грамадзянская каштоўнасць чалавека пераўзыходзіць яго мастацкую каштоўнасць. Я гатовы дараваць пэўныя слабіны мастацка-літаратурнага сэнсу пісьменніку, калі ён праяўляецца як грамадзянін, як асоба, якая патрэбна нацыі ў грамадзянскім сэнсе. І наадварот, я не магу дараваць таленту, калі яго грамадзянская пазіцыя служыць рэакцыі і калі яна накіравана супраць грамадства, і нацыі.

## ПРА МАСТАЦТВА ЯК ВЫКАЗНІК ЧАСУ

*(Пытанне: «Чаму сённяшняе мастацтва, літаратура як бы адстаюць ад жыцця?»)*

— У савецкім мастацтве мастацкае слова значыла вельмі шмат, не таму, што было настолькі самацэнным для грамадства, а таму, што іншага маральнага выказніка ў нашым грамадстве не было. Літаратура і іншыя віды мастацтва былі адзіным, рэгламентаваным, няўдалым у многіх сэнсах маральным выказнікам. Гэтаму мастацтву не ўдалося зрабіць усё так, як хацелася. Але цяпер, калі вярнуцца назад і ацаніць тое мастацтва, то мы павінны проста зняць шапку перад гэтым мастацтвам, перад яго лепшымі творамі... Цяпер часы змяніліся. Рэнамэ мастацтва апускаецца ўсё ніжэй. Я баюся, калі зірнуць на заходняе грамадства, добраўпарадкаванае, дзе мастац-

тву такая роля, як у нас, ніколі не належала, то ўсё-такі хацелася б, каб наша мастацтва, наша літаратура нейкім чынам прадаўжалі свае традыцыі і ў новых умовах...

Вы бачыце, што цяпер мастацтва і літаратура быццам спыніліся на нейкім раздарожжы. Гэта адносіцца не толькі да нашай беларускай літаратуры. Гэта адносіцца да ўсёй літаратуры посткамуністычнага грамадства. Чаму так адбылося — я не магу вам адказаць. Прычыны тут, відаць, ьельмі складаныя, унутраныя, тым не менш, гэта так. Гэта мы бачым на прыкладзе самай актыўнай расійскай літаратуры, нават на прыкладзе прыбалтыйскіх літаратур.

Відаць, тое, што адбылося, адбылося надта нечакана... Усё-такі мастацтва ў пэўнай ступені тугадум, і яно нешта зразумее толькі праз пэўны час. А тое, што яно зразумее і асэнсуе і што паявяцца вельмі значныя, шэкспіраўскага маштабу творы пра наш час, — гэта безумоўна, таму што такія страсці для мастацтва не могуць быць згублены, яны будуць рэалізаваныя; яны абавязкова будуць у нейкай форме сублімірованыя.

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

*(Пытанне: «Як бы вы ацанілі сучасны стан беларускай літаратуры; ці не зніжае крытыка — сваёй завышанай, неадэкватнай ацэнкай — узровень беларускай літаратуры?»)*

— Літаратура і мастацтва наогул — такая справа, дзе нейкай адэкватнасці альбо нават аб'ектыўнасці дасягнуць вельмі цяжка. Гэта, можа быць, немагчыма, бо ўсё-такі ацэнкай твора займаецца пэўная асоба — крытык.

Калі мець на ўвазе той гістарычны перыяд, які прайшло грамадства, дык уся культура таго грамад-

ства падлягае пераацэнцы. І гэта цяпер робіцца. Таму што, сапраўды, толькі цяпер, можа, з'явілася магчымасць да нейкага новага прачытання. Гэта не значыць, што ўсе ацэнкі ранейшых крытыкаў былі несправядлівыя. Многа было справядлівага. Але былі і нейкія аднабаковасці; я думаю, што час усё ацэніць як трэба і расставіць усе кропкі...

У беларускай літаратуры ёсць вельмі здольныя, таленавітыя аўтары, можа, толькі не ўсе ацэнены так, як належыць.

## ПРА ДЭТЭКТЫВЫ

*(Пытанне: «Вас не хвалюе, што большасць людзей чытае дэтэктывы і фантастыку?»)*

— Большасць чытае дэтэктывы? Я вам скажу, што яшчэ больш людзей есць улетку агуркі ці п'е гарэлку...

Дэтэктываў, фантастыкі, эратычнай і г. д. літаратуры баяцца не трэба. Няхай, калі ёсць пакупнікі, выдаўцы, калі яна дае прыбытак,— няхай. Але паралельна з гэтым будзе існаваць і высокая літаратура. Дэтэктывы і фантастыка — гэта літаратура не тое што другога, а — такая, якая яна ў нас ёсць,— гэта нават не літаратура... А тым не менш харошыя творы ў нас былі, ёсць, іх будуць пісаць. Чатыры сотні пісьменнікаў Беларусі абсалютна не патрэбны. Не патрэбна 400 раманаў за пяцігодку. Для таго, каб нацыя адчувала сябе нармальна, каб яна нармальна развівала сваю духоўнасць, патрэбна зусім не шмат добрых кніжак у год, але гэта сапраўды павінны быць вялікія кнігі.

## ПРА МАЛАДЫХ

*(Пытанне: «Вашыя спадзяванні на моладзь, на яе здольнасць адрадзіць нацыю?»)*

— Чалавек сталага ўзросту вельмі рызыкуе, калі выносіць нейкія ацэнкі моладзі: яны заўсёды будуць несправядлівыя. З антычных часоў моладзь прынята было лаяць, што яна «не такая», што яна кепская... Тым не менш чалавецтва развіваецца ў бок прагрэсу, значыць, кожнае новае пакаленне ў чымсьці, відаць, лепшае за папярэднія, хоць тут магчымы розныя зігзагі, розныя пад'ёмы і спады...

Адраджэнне — увогуле справа моладзі, а не пенсіянераў. І ўдзельнічаць у ім, як і карыстацца плёнам культурнага адраджэння,— найперш моладзі. Пакуль жа яна ўдзельнічае ў гэтай справе, на мой погляд, не з такім вялікім імпэтам, як хацелася б.

Калі параўнаць літаратурны ўзровень сучасных маладых літаратараў з тым, які быў, калі мы ўваходзілі ў літаратуру, то, трэба сказаць, гэта больш здольныя людзі. Іншая справа, як будзе праходзіць далей іх развіццё, але яны падаюць надзеі...

# БЫЦЦЁ ПАД ЗНАКАМ БЯДЫ

Спроба эзатэрычнага прачытання прозы Васіля Быкава

Як ад пакут астыне прах,
Душа нятленна-маладая,
Пра іншы марачы абсяг,
Свой склеп пануры пакідае.
Ад цела вольны дух пасля
Сягне высока і, магчыма,
З нябесных сфер глядзіць здаля
На ўсё разумнымі вачыма.

З Дж. Байрана. *Пераклад Р. Барадуліна*

У гісторыі літаратуры даўно заўважана такая своеасаблівасць: чым далей адыходзіць час напісання твора, тым большыя з'яўляюцца магчымасці для яго адэкватнага прачытання і «адшыфроўкі». Кантэкст прачытання літаратуры ўвогуле пашыраецца і ўскладняецца ў часе, уключаючы ў сябе ўсё новыя духоўныя веды і паняцці, хоць сам твор тым часам застаецца ўсё тым жа, візуальна нязменным, якім быў на момант першай публікацыі. Апублікаваныя творы ўяўляюць сабой тую ж скульптуру, што застыла нязменнай навечна. Але, мабыць, толькі літаратурныя творы валодаюць магічнай уласцівасцю мяняцца ў часе духоўна, метафізічна. У адрозненне ад гуку і фарбы слова набывае сваім навечным месцам жыхарства панадчасавую метафізічную прастору Духу, у якой інтэнцыя верша, эсэ, рамана і г. д. можа ўзрастаць да бясконцасці — у залежнасці ад таго, наколькі адухоўлена было тое Слова, наколькі яно было набліжана да вечнасці ад пачатку. Менавіта такое Слова здольна выклікаць з цягам часу ў чытача ўсё больш духоўна насычаныя, «горнія» асацыяцыі, сукупнасць якіх і стварае ўяўленне пра *сэнс* літаратурнага твора.

Каштоўнасць літаратурнага твора і вызначаецца яго здольнасцю выклікаць усё больш глыбокае яго прачытанне, спрыяць трансфармацыі эмпірычнай абалонкі сюжэта (напрыклад, гэтак званай фактуры прозы) — да сферы ідэй, сувязь з якімі і ёсць крытэрый каштоўнаснага вымярэння літаратуры. Бо любы іншы крытэрый — нацыянальны, сацыялагічны, партыйна-ідэалагічны дый гуманістычны таксама — зводзіць функцыю літаратуры толькі да слугавання — той жа «нацыянальнай ідэі», «сацыялістычнаму будаўніцтву», «усталяванню дабра на зямлі» і інш. ДУХОЎНАЕ вымярэнне слова ў такіх выпадках апрыёрна вынесена як бы па-за поле зроку літаратуразнаўства.

Але тым і загадкавы свет літаратуры, што з цягам часу ён сам, іманентна пазбаўляецца ад накінутых «кантэкстуальных» крытэрыяў і схаластычных «значэнняў», службы. Ён сам расстаўляе ўсё па сваіх месцах, пакідаючы «класавасць, партыйнасць і народнасць», «нацыянальныя формы і сацыялістычны змест» мінуламу, гісторыі літаратуры і вызваляючы прастору літаратурнай самасвядомасці (якой і ёсць, уласна, крытыка як чытанне з мэтай пэўнага асэнсавання твора) адно толькі для эстэтычнага сузірання, магічнай, ніколі не вытлумачальнай па прыродзе гульні асацыяцый, у якіх герой, сюжэт, матыў і г. д. лучацца са сферай агульналюдскай духоўнасці і толькі ў кантэксце якой і набываюць «значэнні».

Калі пройдзе сто год і новыя пакаленні чытачоў не будуць «па ўласным вопыце» ведаць, што такое Вялікая Айчынная вайна на Беларусі, партызанка, паліцаі, калектывізацыя, рэпрэсіі, камуна і падобнае,— яны будуць шукаць у беларускай літаратуры гэтага перыяду аднаго толькі — здабыткаў беларускай духоўнасці, яе праўдзівых высілкаў, зафіксаваных у слоўных формах. І — прымерваць наш вопыт да сябе, да сваёй, і х н я й, будучай духоўнасці і светапачування. Пакаленні, кажучы ўзвышаным стылем, пера-

маўляюцца на мове духу, а не паводле «значэнняў» і «праўдападобнасці». Такім чынам, беларус канца XXI стагоддзя, самотна шукаючы ў знакавай прасторы свету адбітку беларускага досведу, замацавання формул нацыянальнай псіхалогіі і нацыянальнага бытавання — якія маглі б надаць гэтаму «беларусу будучыні» сэнс яго існавання на зямлі як такому,— раскрывае том твораў Васіля Быкава, аповесць 1982 года «Знак бяды»...

### 1... КРЫЖЫ.— «ЗНАК БЯДЫ»

Той чытач будучыні, азнаёмлены з папярэднімі — ваеннымі і «партызанскімі» — аповесцямі Васіля Быкава, адкрые ў «Знаку бяды» Быкава зусім іншага — Быкава не ваяра і не змагара, — Быкава — сузіральніка быцця і журботнага філосафа, што бязмежна любіць свой край і свой маўклівы, ціхмяны народ. Магчыма, справа тут ва ўзросце мастака, што пачаў быў падбірацца да шасцідзесяцігадовай вяхі; магчыма — і гэта больш верагодна — мастак самахоць прыйшоў да тае кропкі светаўспрымання, ад якое бачацца зусім іншыя, чым раней, далягляды, усведамляюцца зусім інакшыя, чым дагэтуль, каштоўнасці. Адзіночны бой у ваеннай тэме скончаны; адгрымела, адваявала балючая памяць — і адразу, непазбежна душа мастака засамотнела па іншым, па новым, па больш аддаленым і больш глыбокім плане быцця — пачуцці бяссмерця, на ўзаемаадносінах з якім адно і правяраецца сапраўдная існасць мастака. Дух мастака сам з сябе перакідвае масток з аднае асягнутае сферы да другой — новае, больш «горняе» — і — «глядзіць здаля на ўсё разумнымі вачыма».

Каб абмежаваць ужыванне надалей «пабочнай» тэрміналогіі, коратка скажам, што тут маецца на ўвазе г. зв. ступень ініцыіраванасці («пасвечанасці») ма-

стака ў «горнія» сферы, калі праз мастакоўскія творы — зазвычай бессвядома для самога іх стваральніка — прамаўляюцца «вечныя» тэмы і вобразы, сутнасныя ідэі чалавечага досведу, паводле якіх ладкуецца і гарманізуецца агульналюдскае быццё. Іншымі словамі, калі творчасць пісьменніка сваім духоўным кантэкстам, сваім глыбінным «падразумяваннем» сягае касмічнай вышыні, несучы ў свет не выпадковыя і не спарадычныя, а пакрыёмыя, сутнасныя болі і пакуты роднай зямлі, родных людзей; назаўсёды пераадольваючы межы тутэйшасці, знаходзячыся ў якіх толькі народны боль нельга «адгадаць», спасцігнуць дакладна.

У «Знаку бяды» мастак-змагар мяняе сваю звыклую пастась. Не з акопа, не ад імя героя-ваяра чуцён яго голас — як быццам «з неба», зверху ліецца лагодны, элегічны голас мастака-ўжо-сузіральніка, што цешыцца гэтымі дваімі людзьмі, адзінымі насельнікамі беларускага хутара дзесь на Паазер'і,— Петраком і Сцепанідай. Аўтар-апавядальнік быццам «завіс» над хутарам, заняў «нябесную», зверхнюю пазіцыю над гэтым улюбёным лапікам зямлі і чалавечым жытлом на ёй,— і пільна, любасна і разважліва назірае за жыццём «знізу», на Яхімоўшчыне і ў яе ваколіцы, робячы адначасна помныя экскурсы ў недалёкае яшчэ даваеннае мінулае, у гісторыю гэтай мясцовай чалавечай Галгофы...

Бадай, самога пазначэння гэтай зямлі запаветным хрысціянскім сімвалам — Галгофа — было б дастаткова, каб здолець выказаць сутнаснае мастакоўскае разуменне гэтага краю. Без падрабязнай мастацкай расшыфроўкі, дэталізацыі сімвала пакуты — а ім ёсць Галгофа, працяглых экскурсаў у мінуўшчыну. Гэта і не патрэбна, калі знойдзены, дакладна адчуты галоўны сімвал краю — сімвал людской долі-быцця ў ім. Сімвал, дакладна знойдзены, сам па сабе ёсць плёнам мастацтва менавіта як вынік пошуку дакладнага

*сімвала-знака; ён ёсць сам па сабе «твор у творы»*, самадастатковым мастацкім здабыткам. Менавіта гэта акалічнасць і дазваляе вызначыць манеру, у якой напісана аповесць, як прытчава-парабалічную, калі «сэнс» сюжэта вынікае з умоўнасці і шматзначнасці мастацкіх дэталяў, а самі дэталі — складнікі знешне звычайнай рэалістычнай аповесці — павінны прачытвацца з сімвалісцкім падтэкстам, ад якога ніткі спасціжэння твора сягаюць шмат і шмат далей, у нетры беларускага «быцця ўвогуле» і яго анталогіі.

Быццё ў «Знаку бяды» наша, беларускае. Быццё, занесенае ў XX стагоддзе, у вялікую жорсткую вайну, што суцэльна захлынула тутэйшую быццёвую прастору, звяла магчымасці тутэйшага быцця на ніяк. (Ёсць там, у глыбіні аповесці, абмоўка ад імя Сцепаніды: «Чула яна: магчымасці яе людскога жыцця ўсё вузелізмяншаліся...»)

Людзі — і Час. Бясконцая дыхатамія быцця і бясконцы верад спосабаў яе развязкі. Заўсёды ёсць пераможца і пераможаны. Пажадана, каб перамог Чалавек — Час; Час чалавека не перамагае — ломіць, крышыць, пляжыць, «касуе» Чалавека як такога. І застаецца толькі адзін шанец — застацца Чалавекам, нескароным Часу, Чалавекам — **НАД** Часам.

Класічны прыклад такога чалавека ў беларускай савецкай літаратуры — быкаўскі Пятрок са «Знака бяды». Ад пачатку перад намі чалавек, які бясконца адасоблены не тое што ад навакольнага жыцця — ад самое вайны. І гэта ў час, калі трэба брацца за зброю, ладзіць супраціўны ворагу чын... Але для духоўнага стану гэтага чалавека нішто вакольнае ўжо не валодае істотным сэнсам: усё істотнае ўжо адбылося ў яго душы і адтуль кіруе рэштаю яго жыцця фізічнага. «...Ні да якой работы ў яго не ляжала душа, галава была занята зусім іншым клопатам, Пятрок нудзіўся, бясконца дыміў самасейкай і то сядзеў на ўслончыку пры парозе ў сенцах, то няўцямна сноўдаў, як хворы, ля ха-

ты. **Увага яго, аднак, ні на чым не спынялася** (тут і далей у цытатах падкрэслена мной. — *Ю. З.*), усё навокал было звыклае і даўно знаёмае. Ды і дзіва што: тут ім пражыта дваццаць гадоў жыцця — нялёгкага, у працы, нястачы і клопатах, але іншага, мабыць, не будзе...»

Носячы ў душы сваю раней здабытую праўду, герой мог колькі заўгодна часу маўчаць, задаволіўшыся ціхім сузіраннем падворка. І «можа б, як і дабыў свой век не ў сытасці, дык хоць у спакоі...». Каб не вайна... Вайна — парушыла гэты пастаральны спакой: «У свеце... раптоўна і дарэшты рухнулі спрадвечныя апоры, на што было абаперціся, каб затрымацца ў жыцці?» Катаклізм Часу паскорыў выяўленне тае духоўнае праўды героя, што не магла застацца невыяўленай. Толькі ў вайну гэта адбываецца скарэй... Выразна адчуўшы рушэнне зямных апор і прадчуўшы сваёй істотай непазбежнасць пераходу ў іншыя, духоўныя формы існавання — ад «зямных»,— «ён не хацеў пастудацца сваёй, слабаватай, але блізкаю яму праўдай, якая крыўдліва варушылася ў душы, не жадаючы каму-небудзь паддацца»,— герой усвядомлена робіць тое, што робіць кожны чалавек, які развітваецца з жыццём: аглядае яшчэ раз свой любы падворак. Свядомасць яго выразна канстатавала запанаванне ў яго зямным лёсе непераадольных патойбочных сіл, з якімі нічога не паробіш — застаецца толькі прымірыцца: «Перайначвалася ў цэлым свеце... і на іхнім хутары нешта стане не так»; застаецца толькі «прымаць тое, што нарыхтаваў табе лёс».

Заўважым — гэткі стан пададзены апрыёрна, яшчэ да непасрэднага знаёмства з героем; але, мабыць, гэта не пагранічча, не стан выбару — гэта, напэўна, стан чалавека, які **ЎЖО ВЫБРАЎ**, здабыў з душы ўсе праўды». Цяпер яму сапраўды засталося толькі ўглядацца ў вакольную, знаёмую рэчаіснасць — чужымі вачыма. Вачыма гэткага, «адсутнага» чалавека мастак

і аглядае рэчавыя сімвалы тутэйшага быцця — цяперашняга і шматранейшага. Якія сімвалы яму бачацца? «Ён... глядзеў на ўсё быццам чужымі вачыма, быццам ён куды ад'язджаў, развітваўся, і яму было шкада ўсяго. Хата не сказаць каб новая, але дзерава папалася некалі добрае, смаляная хвоя... Хата яшчэ пастаіць. Страху ў вільчаку трэба б як-небудзь залапіць, ля коміна ад самай вясны цячэ, калі дождж, таксама як і ў істопцы, што цераз сенцы, пад адным з хатай дахам... істопку некалі палілі па-чорнаму, у акенца ішоў дым; у цёмным куце яшчэ і цяпер смярдзіць застарэлым гарам чорная печ-каменка... Самая, можа, спраўная тут будыніна — новая пунька пры хляве. Праўда, з выгляду не дужа самавітая, сяк-так складзеная з тонкага яловага вяршалля... Усё ж сядзіба не самая кепская... Вада ў калодзежы была смачная, заўжды сцюдзёная і чысцюткая, як сляза. Гэткай вады не было тут нідзе...»

Ды адкуль гэты развітальны тон («глядзеў быццам чужымі вачыма, быццам ён куды ад'язджаў, развітваўся...»); дзе, на якім пераломе адбылася быційная ініцыяцыя героя, у выніку якой ён стаў «адсутным», узняўся НАД Часам і НАД Светам? Вось тут і робіць мастак — зверхні назіральнік — першы экскурс памяці ў мінулае, на зямлю Галгофы.

...Тады ім быў знак — змерзлы на неспадзяванай вясенняй сцюжы жаўранак. Усё затым абярнулася супраць гэтых дваіх людзей — насельнікаў чужога — колісь панскага — хутара, атрыманага імі ва ўласнасць імем савецкай улады. Няшчасце прынёс ашчасліўленым па першым часе колішнім парабкам той чужы маёнтак: сама зямля была супраць іх гаспадарання на ёй. Можа, праз Петрака сцвярджаліся няздзейсныя дасюль мары ўсяго яго папярэдняга роду — урабіць колькі мага зямлю, нагаспадарыцца ўволю. (Сцепаніда ўспамінае, як Пятрок «усё не мог нагаспадарыцца ўволю» на абрынутым на іх лёсы падвор'і...) Ды, відаць, не той ход быў у

жыцця, каб тыя мары здзейсніліся, не тое было зроблена, каб «было ўнукаў панаванне там, дзе ўчора плакаў дзед». Не прыняла зямля,ператвораная ў няўробліваю, закарэлую выспу, новага гаспадара — Петрака. Няшчасны руплівец мусіў продкавым спосабам — самаруч — ускапаць закамянелую гліну і пасеяць зерне... Ды, відаць, надта надрыўны, занадта пакутны быў высілак чалавека на зямлі, што не прынесла тая пабораная чалавечаю ўпартасцю і сілай выспа радасці чалавекупераможцу: нешта незваротна ў ім ад таго згасла, зышло, знікла як дарэмная надзея і летуценне. Знікла родавая мара продкаў Петрака на ШЧАСЦЕ НА ЗЯМЛІ. Чаму так адбылося — таго не дадзена пасцігнуць да канца ні Чалавеку, ні — пакуль што — мастаку-назіральніку. Толькі абмоўкі на «сэнсатворных» стыках, дзе няма ні героя, ні — ў чыстым выглядзе — аўтара: «(Сцепаніда — перад вайной) ...Нешта ў свеце заблыталася, перамяшалася, зло з дабром ці адно зло з другім, яшчэ большым злом»; «(Пятрок — у час вайны) ...Калі чума праз сваіх, вясковых, тутэйшых людзей, вядомых усім да трэцяга калена, якія раптам перасталі быць тымі, кім былі ўсё жыццё, а зрабіліся нелюдзямі, звяр'ём, падуладным толькі гэтым набрыдам-немцам, тады як разумець тое? Ці яны раптам ператварыліся ў звяр'ё і вытвараюць такое па чужым прымусу, прытаптаўшы ў сабе ўсё чалавечае, ці, можа, яны і не былі людзьмі, адно прытвараліся імі ўсе гады да вайны, якая разбудзіла ў іх звяруг». Пакуль што толькі «намёкі», «прадчуванні», «глабальнага характару» здагадкі...

Толькі нязгаслая памяць людская ў самы жудасны, жорсткі час іх жыцця дорыць усё-такі хвалюючы ўспамін-адчуванне нечага дарагога ў пражытым, «нейкую непазнаную слодыч, аддалены гук жыцця». Чалавек неўсвядомлена прыходзіць да сімвалічнага спасціжэння свайго зямнога кону, сваёй няўдачы на зямлі: сведчаннем таму — пазнака тае няўдалае вы-

спы-гары «высозным і страшэнна цяжкім» крыжам — знакам гэтае зямлі, пасля чаго месца і набыло найменне «Галгофа». «І, мабыць, яшчэ доўга будзе так звацца гэты нязладны для хлебаробства пагорак, асвенчаны іх слязьмі і працай, іх і чалавечымі пакутамі». Дык, значыцца, не толькі іх зямля — Галгофа; значыцца, і чалавечая, айчынная зямля таксама — такая ж?

Вось скуль выток петракоўскай «бесстароннасці» («глядзеў чужымі вачыма»). Навошта пасля гэтага, пасля выразнага адчуцця марнасці свайго жыццёвага, наземнага высілку — яго доўжыць? Досыць надалей спакойнага, «філасофскага» сузірання родных імшарын, надворка, «мілага» нарэзвання табакі... У ціхамірнай журбе, скрушным папіканні лёсу і меўся быў сплываць астатні зямны век Петрака. Толькі вось прыход іншаземнага ворага неўспадзеў скасаваў гэтую магчымасць мірнага расстання з жыццём, груба і ўраз абарваў яго адзінокі гук.

...Жыццё, якой жа
ты самотнай нотай
Гучыш у хоры быція
не ў лад!
Ты — наш анчар, што
ў хлеб надзённы ўпотай
Па капачцы смяротнай
цэдзіш яд.
Зямля, набраклая
салёным потам,—
Твой грунт, твая ж
карона — бездань неба,
Якое лье дажджом і
цісне гнётам
Хвароб, памору і
нястачы хлеба
І горам там, дзе б
радавацца трэба...

(Дж. Байран. «Паломніцтва Чайльд Гарольда». *Пер. Я. Семяжона)*

Усе паводзіны Петрака ў «часе дзеяння» аповесці — перад немцамі — моцна нагадваюць паводзіны самнамбулы, зданю, ценю... Ценю таго, існаснага Петрака, каторы «глядзіць на ўсё здаля разумнымі вачыма». Цень гэты і «панылa думае», і «панура разважае», і «нудзіцца», «дужа хутка і па-мужчынску проста ўціраецца ў іхнюю (да немцаў) кампанію», «як мага ласкавей» з імі гаворыць. Ён, цень, «баіцца нават у сваёй хаце», слупянее «ў безнадзейнай абыякавасці да сядзібы, жонкі і найперш самога сябе». Але ён не баіцца смерці. Бо акаляючая, ашчэраная на жывое жыццё рэчаіснасць для Петрака — сама прывід, фікцыя, няіснасць. Існасць — угары, уверсе, у ласкава клічучым яго душу Небе... «Вялікая абыякавасць да сябе і да жыцця наогул»,— чуецца ў момант расстрэлу Петрака ва ўласным доме, што зымітавалі раз'юшаныя паліцаі. Толькі б дома, на парозе хаты памерці — апошняе прыжыццёвае жаданне Петрака.

І — «Пятрок знік, прапаў з гэтага свету». І свет для яго знік таксама, знікла Галгофа. Гэтак, амаль пагесэўску аўтар дэматэрыялізуе свайго героя, што быў і так занадта доўга затрымаўся ў гэтым пакутным да апошняга ўздыху жыцці. На выспе застаецца іншая душа, якой наканавана іншая доля — доля змагарная, дзейная...

Пятрок пайшоў на Неба, сцвердзіўшы выдатную нацыясофскую інтуіцыю Аркадзя Смоліча: «Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыны, тае будучыны, калі справядлівасьць запануе між народамі, але быў мала падгатаваным да змаганьня за быт, за жыцьцё, якое йшло вакола яго і яго коштам, але на яго шкоду... Ён... пасяліў сьвет вакола сябе разнароднымі духамі, благімі і добрымі, і жывець напалову ў сьвеце гэтых духаў» («Географія Беларусі»).

«...Хутчэй аддасць, чым возьме. Лягчэй саступіць, чымсьці даб'ецца. Не любіў сварыцца, яму ўсё каб

ціха...»; «быў аж залішне добры»; «чалавек ціхі і мяккі... страхотны, зважлівы, трохі набожны...» Такімі была большасць аднавяскоўцаў Петрака; такія былі і яго продкі.

...Для Петрака «духі» ўрэшце ўвасобіліся ў Дух адзіны, абсалютны. Адсюль і «высозны і страшэнна цяжкі» Крыж, як сімвал інтуітыўнага паяднання чалавека з Духам адзіным, сведчанне яго, чалавечай, нясмелай надзеі на зверхнюю помач, сціплага спадзеву на палягчэнне зямной ношы.

...Крыжы, крыжы —
усцяж дарогі кожнай,
Зірніце з гор у глыбіню
далін.
Не думайце: іх ставіла
набожнасць —
Аб лютасці забойцы напамін.
Дзе паў ахвярай краю
горды сын,
Там крыж узведзены
рукою нечай.
І край, нібы суцэльны
крыж адзін,
Нясе пакуты крыж,
бядой знявечан...

(Дж. Байран. «Паломніцтва Чайльд Гарольда». *Пер. У. Дубоўкі*)

* * *

Зямное, рэальнае жыццё не трывацьме пустаты ў сваім развоі; яно, жыццё, неўнікнёна шукае і знаходзіць формы для запаўнення іх тою быццёвай энергіяй, што дагэтуль была адрынута ў бок ад іншых кшталтаў. Калі кшталт Петрака — унутраны, філасофскі, экзістэнцыйны, то «зямны», «маральны», практычны кшталт зямнога існавання мусіла спраўджваць Сцепаніда.

Сцепаніда — тып экзатэрычны, знешненакіраваны і знешневыяўлены; гэта тып змагарны і дзейны. Сцепаніда не сузірае і не разважае: яна рашуча дзеіць і бязлітасна асуджае ворагаў — немцаў, паліцаяў і самога «недалэгу», «дурня» (з яе «практычнага» пункту гледжання) Петрака. Энергія быцця, што адстойвае справядлівасць, як бы сімвалізавана і выяўлена праз Сцепаніду. Гэта энергія — «з кулакамі»; зло Сцепанідай — немцы і іх памагатыя на хутары — асуджана адразу ж і беспаваротна. Такім чынам, у асобе Сцепаніды маніфеставана маральная — дый быційная — пазіцыя сіл чалавечнасці і дабра ў часе наступу на іх сіл зла, разбуральных сіл. «Яна ведала, у чым яе хопіць да скону. За сваё цяжкое жыццё яна ўсё ж спазнала праўду чалавечых адносін і пакрысе здабыла свой невялічкі чалавечы гонар. А той, хто аднойчы адчуў сябе чалавекам, ужо скацінай не стане (тут паўторана амаль дослоўна сентэнцыя С. Цвэйга. — *Ю. З.*). Шмат што ў жыцці, асабліва гора і бяда, пераканала яе ў тым, што з людзьмі трэба абыходзіцца па-добраму, калі хочаш, каб і да цябе адносіліся па-людску (а тут амаль дакладны пераказ маральнага імператыву І. Канта. — *Ю. З.*). Напэўна, чалавек такі ўжо ад прыроды, што адказвае дабром на дабро і не можа адказаць дабром на зло. Зло не можа спарадзіць нічога, апроч зла, на іншае яно не здольна. Але бяда ў тым, што людская дабрыня перад злом бяссільна, зло лічыцца толькі з сілай і баіцца адно толькі кары. Толькі непазбежнасць адплаты можа прыцішыць драпежны ягоны нораў, прымусіць задумацца...» Гэткі галоўны сэнс Сцепанідзінай праўды, што пэўным чынам ператалумачвае талстоўскую тэзу «непротивления злу насилием»,— ненасілле дабра не ёсць і не павінна быць яго бяссіллем перад злом. (Пазней, у рамане «Кар'ер», у спрэчцы Агеева і пападдзі Бараноўскай, абедзве тэзы сінтэзуюцца ў адну: у неабходнасць па меншай меры духоўна процістаяць злу. Бо — «калі ў

душу не пусціць бога, дык у ёй абавязкова паселіцца д'ябал».)

Уласна сваім дзейным чынам Сцепаніда якраз і дэманструе гэтую апошнюю тэзу быкаўскай маралі: «Да апошняй сваёй хвіліны яна не скорыцца ім, бо яна чалавек, а яны звяры». Не скорыцца — адзіны непаддайны на хутары і ў ваколіцы злу чалавек — беларуская жанчына Сцепаніда. Залісліваў перад фашыстамі прывід-цень Петрака; прадаліся і шчыра служаць немцам гужы і іншыя тутэйшыя душапрадаўцы; маўчыць прыпалоханы сілай чужой зброі народ... На здратаваным каванымі ботамі хутары б'ецца адзінае няскоранае сэрца — Сцепанідзіна. Ад пачатку і да канца яе чын — бадай бессвядомы, імпульсіўны: і «недадоенае» малако, каб пазбавіць германцаў нат малой насалоды; і скрадзеная вінтоўка, кінутая ў калодзеж; і нязменнае «скулля ім!» — у адрас паліцаяў, што панадзіліся на хутар пасля немцаў; і асуджэнне бязвольнасці, нерашучасці «недалэгі» Петрака... Рэальны ўрон ворагу ў гэтым адзінокім змаганні — ледзь не чыста сімвалічны. Ды гэта ў рэальнасці. А ў надрэальнасці, у плане духоўнага супраціву ворагу — фронт выглядае зусім інакш, ён напружаны і бязлітасны, больш таго — бок Сцепаніды ў духоўным проціборстве перамагае. Бо не можа не перамагчы чалавечнасць, што адстойвае сваё чыстае імя і непарушную існасць; бо не могуць не быць пераможаны сілы зла, увасобленыя ў чужынцах, што прыйшлі на гэтую зямлю з вайною і разбурэннем (дый свае «чужынцы» таксама, хоць з апошнімі найбольшая няпэўнасць у аўтара...). Сцепанідзе нават агідна ўваходзіць у хату пасля таго, як у ёй пабывалі чужынцы...

За сваё роднае, крэўнае яна і ваюе; сваю духоўную цноту яна і адстойвае. У адрозненне ад Петрака, дом якога ўжо не на зямлі — вышэй,— за плячыма ў Сцепаніды неяк усталяванае за доўгія цяжкія гады сваё дамашняе, зямное цяпельца, быт, а перад вачы-

ма — цынічны вораг, што прыйшоў гэтае цяпельца парушыць, адабраць. Ды таму не бываць.

Калі для Петрака ў духоўных адносінах конавым выпрабаваннем было змаганне з Галгофай, то для Сцепаніды час выпрабавання прабіў цяпер, у час варожага нашэсця на яе зямлю. Невыпадкова трохі раней аўтар — зверхні назіральнік — заўважыў, што для Сцепаніды папярэдняе яе жыццё было «нібы подступам, падрыхтоўкай, зборам...». «Здаецца, яна пражыла ўсё, пеpaжыла свой лёс. Як і не жыла... Усё збіралася, доўгія гады чакала, адкладвала на пасля...» І во — склалася, прыйшоў час жыць па-сапраўднаму, жыццём-азарэннем, праз якое толькі даецца дарога ў вечнасць... Сцепаніда гэтае «апошняе жыццё» пражыла годна і велічна.

У процістаўленых характарах — Петраку і Сцепанідзе — можна разгледзець адмыслова беларускую псіхалагічную амбівалентнасць мужчынскага і жаночага ў народным характары. Калі «мужчынскія» праявы нацыянальнага характару выяўляюцца пераважна ў жанчыне, а «жаночыя» — у мужчыне. Зрэшты, амбівалентнасць мужчынскага і жаночага ў гэтых мастацкіх пераўвасабленнях у «Знаку бяды» — чыста ўмоўная, нават штучная, але, без нацяжкі, ад гэтай скамбінаванай літаратурнай гульнёй быццёвай сітуацыі можна развіць нітку асацыяцый і да вытокаў міфалогіі паходжання процілеглых палоў з аднае першапачатковае цэласнасці... Сцепаніда сутнасна дасягае духоўнага стану Петрака ў процілегласць яго шляху не сузіраннем, а — змаганнем, рэальным высілкам, адольваючы ціск вонкавых акалічнасцяў і сіл. Гэта ўстаноўка — на безумоўны супраціў, змаганне — сыходзіць з глыбіні яе душы, магчыма нават, як няспраўджаная продкамі (Рагнедай, напрыклад) прага помсты злу, перамогі над знешнім ворагам-крыўдзіцелем. Тут зноў дарэчы працытуем Аркадзя Смоліча: «Ёсьць у характары беларуса адна важная рыса, якую згодна прызнаюць усе леп-

шыя этнографы... Пачуцьцё помсты ў ім неразьвіта, што адрозьнюе яго навет ад украінца... Гэтая рыса беларускага характару мела, мусіць, немалое значэньне ў беларускай гісторыі. Агульна ведама, што беларус у мінуўшчыне асабліва ваяўнічым настроем ніколі не вызначаўся і часткаю праз гэта, мусіць, у тыя часы, калі адны народы будавалі сваю дзяржаўнасьць і незалежнасьць на няволі і прыгнечаньні другіх, трапіў ён ня ў лік першых — прыгнятаючых, а ў лік другіх — прыгнечаных... Недахват ваяўнічасьці... трэба тлумачыць толькі гэтай лагоднасьцяю, рахманасьцяю беларускага народнага характару; беларус рад каму хаця саступіць, абы была згода. Зразумела, што пры гэтай лішняй, можа, міралюбівасьці гісторыя беларускага народу і не магла ўлажыцца іншым спосабам, як яна ўлажылася...» (Стуль жа).

Магчыма, магічнае пераўвасабленне беларускай рашучасці і адвагі ў жаночую палову нацыі адбылося таму, што жанчыны не так дарэшты вынішчаліся ворагам, як мужчыны (ёсць жа ў беларускім фальклоры «волатавыя» матывы, значыць, былі і мужчыны-волаты сярод нашых продкаў...).

З моманту зразумення неабходнасці супраціву ворагу ва ўсім, нават у самым малым, рэальны плён змагання для Сцепаніды траціць сутнасны сэнс: яна таксама, услед за ціхамірным «недалэгаю» Петраком, дасягае свае духоўнае свабоды; пачынаецца змаганне дзеля самога змагання.

«Бомба на ўзроўку» —вось сімвал неадольнай духоўнай сілы Сцепаніды і Сцепанідзінага народа, падпалага пад варожае нашэсце, ды не скоранага, баронячага сваю «ўнутраную свабоду». «У думках» гэты народ вольны, а думкі непазбежна выспеюць у дзеі.

...Хай сонмы
пераможаных маўчаць,—
Няма пакоры ў грозным
іх маўчанні.

Стаіла страсць у логвішчы
дыханне.
Ды прыйдзе час —
паўстане гневу раць,
І права помсты, кары й
даравання
І сення не прымусіць
нас чакаць,
Але празмерна нельга
помсціць і караць.

(Дж. Байран. «Паломніцтва Чайльд Гарольда». *Пер. У. Караткевіча)*

У расейскай літаратуры была нацыянальная метафара: «Дубина народной войны». У беларускай літаратуры ёсць — сімвал-знак «Бомба на ўзроўку».

«Бомба на ўзроўку чакала свае пары».

Бомба на ўзроўку чакае свае пары.

Але... «празмерна нельга помсціць і караць».

## 2... НА ШЛЯХУ ПАКУТ.— «АБЛАВА»

Сузіраючы ў «Знаку бяды» крыжы роднай зямлі і Крыж свайго маўклівага народа, сімвалізуючы яго крыжовую гісторыю мастацкімі сродкамі, аўтар-назіральнік усё-ткі не мог абмежавацца толькі духоўным паяднаннем з лёсам свайго народа, сімвалічным спасціжэннем яго высілку. Гэты аўтар належыць да іншай кагорты аўтараў: ён і сам — баец, ваяр, яму не прывыкаць да непасрэднага ўдзелу ў высілку, які вызначае не тое што лёсы літаратурных герояў,— лёсы рэальных людзей, народа, краіны... І таму аўтар не мог не спусціцца з неба над Яхімоўшчынскім хутарам, каб паспрабаваць прайсці рэальным чалавечым шляхам спаміж імшарын і лугавін, між лесам і балотамі роднай зямлі. Ён вырашыў прайсці гэты шлях адзін, упаасобку, без пабочных сведкаў і памочнікаў,— сам-насам са сваім болем і нязгаслай памяццю...

Заўсёды важна, як аўтар называе, аклікае свайго героя ўпершыню. «Чалавек не заўважаў (вады. — Ю. З.) і між кустоўя ўпарта імкнуўся кудысьці... Відаць было па ўсім, што чалавек даўно ішоў адзін, звыкся са сваёй адзінотай і старанна абмінаў людзей...» Чалавек. Проста — чалавек. Тутэйшы. Безыменны. Адзіны герой аповесці. Са сваім адзіным, дамінуючым, запаўняючым усю яго свядомасць сэнсатворным матывам — матывам вяртання дамоў, у родны край, у свой кут, на зямлю продкаў. Толькі гэты татальны матыў, бадай што, і мог бы прыдаць старому, знясіленаму гулагаўскай пакутняй чалавеку сілы пераадолець упаасобку, у холад і голад, шлях з котласкага лагера для рэпрэсаваных — дадому, у ўсё тую ж, азначаную ў аповесці ледзь-ледзь мясціну крывіцкай зямлі, у родны хутар-пасяленне пад назовам Нядолішча. Сам па сабе гэткі шлях — неймаверны быційны высілак, высілак-таксама-сімвал, за якім — найвышэйшы ўзлёт жыццёвай адвагі, напяцця духу і вытрываласці чалавека. У такім высілку для чалавека найчасцей заключаецца апошні, галоўны сэнс ягонага быцця — далей ужо такога напяцця не спатрэбіцца, дый сілаў на тое не будзе,— далей толькі — вечнасць і...багна.

Але нам цікава пабачыць і вытокі гэтага матыву, яго запачаткаванне ў папярэдніх творах Павадыра (гэтак, не без слушнасці, на мой погляд, называе аўтара «Аблавы» крытык С. Дубавец). Нешта падобнае мы ўжо дзесь стрэлі, і гэта нам прыпала на памяць... Ды гэта ўсё той жа незабыўны Пятрок! Узгадаем зноў тую яго смяхотную ходку перад Домам урада ў Менску; аўтар з добрым пасмейваннем павадзіў тады Петрака па горадзе... «Дужа не хацелася яму выпраўляцца ў тую нязнаную дарогу, на край свету—у Мінск... Проста жах браў...» «Ён праклінаў сябе за нерашучасць... не першы ўжо раз, але дужа выразна падумаў: нашто ён паехаў сюды?..» І ўрэшце—«...Усё, што рабілася навакол, было яму дужа пастыла і дужа хацелася дамоў, да сваёй сядзібы, пагор-

ка і рова, сваіх лугавін і імшарын, свайго маленечкага кутка на гэтай вялізнай няласкавай зямлі». У падтэксце гэтага выбітнага эпізода-рэтраспекцыі са «Знака» мне выразна прачытаўся фінал трэцяга гесэўскага жыцця-пісу да «Гульні шкляных перлаў»: «Усё астатняе адбылося па той бок вобразаў і дзеянняў. Лесу ён больш не пакідаў»...

Але тое быў — у «Знаку бяды» — яшчэ не матыў у пэўным сэнсе слова; хутчэй прадматыў. Матыў выразна саспеў у «Аблаве» і на ім, як на эзатэрычнай мацавальнай сіле, і збудаваны відавочныя, падзейныя ўзроўні сюжэта. Матыў вяртання да зямлі продкаў — эзатэрычны падсэнс сюжэта «Аблавы».

Я нават падзівіўся, чытаючы аповесць, наколькі густа расстаўлены ў ёй «сымболі» таго «скрытага», эзатэрычнага матыву. Прычым з гэткай жа шчыльнасцю, што і «знакі бяды» ў «Знаку бяды».

Возьмем для пачатку экзістэнцыйны модус існавання героя — як мы ўжо казалі, монагероя, героя-адзіночкі («аповесць аднаго героя»). Яго, героя, няма з кім параўнаць, у адрозненне ад процістаўленых герояў «Знака бяды» — Петрака і Сцепаніды. Няма і іншай процістаячай ці ўзаемадзеючай свядомасці, як тое было ў «Сотнікаве»; няма хоць колькі-небудзь выяўленага дыялога: герой гаворыць сам-насам, яго адзіны суразмоўнік — яшчэ жывая і балючая памяць, альбо за героя, дзе таго вымагае і дазваляе сюжэт, «дагаворвае», успамінае, ацэньвае і вінаваціць (гэта найбольш) — аўтар-Павадыр... Модус існавання героя, Хведара Роўбы, такім чынам — экзістэнцыйная адзінота, пагранічча, за якім — альбо вяртанне да людзей, у грамаду, альбо яшчэ большы адыход ад людства, увогуле зыход з арэны жыцця... На гэткім пагранiччы чалавек і дае сабе адказы на галоўныя пытанні быцця: ДЛЯ ЧАГО І НАВОШТА. Усё залежыць ад таго, ці дадзены ўрэшце адпаведныя адказы.

Для Хведара яго галоўнае, апошняе пытанне сы-

шлося ў адно, прагучала коратка, як крык: ЗАВОШТА. Як жа ён прыходзіць да гэтага ЗАВОШТА і ці дае адказ на яго?

Як і Пятрок, Хведар дасягнуў гэткай стадыі існавання, што ўжо не імкнецца да людзей, больш таго — вымушаны іх асцерагацца. Нагадаем: «Відаць было па ўсім, што чалавек даўно ішоў адзін, звыкся са сваёй адзінотай і старанна абмінаў людзей. Людзі былі для яго найвялікшаю небяспекай у полі, на дарозе, ці не таму ён выбіраў шлях воддаль ад дарог, паселішчаў... За час блукання ён адвык ад чалавечага голасу, сам маўчаў, толькі напружана, да болю ў галаве думаў і безупынна ўзіраўся ў наваколле...» У Петрака хоць нехта быў паблізу, наравітая жонка, злаўрэдныя паліцаі... У Хведара ж няма нікога. Толькі памяць, што размотваецца за час яго самнамбулічнага блукання па лесе, па родных імшарынах і палях. Неўпрыкмет перастаеш заўважаць адрознасць голасу Павадырапісьменніка і голасу Хведаравай памяці — яны зліваюцца. Аўтар «увайшоў» у героя і — пайшоў разам з ім ПА ЗЯМЛІ. Зверхні назіральнік спусціўся з Неба.

Але што кажа нам памяць героя? У лёсе Хведара нічога гераічнага няма. Сын вёскі, звычайны селянін, «пагарджаны парабак» у мінулым, «патомны беззямелец». Рупны працаўнік ад цямна да цямна. Толькі зусім нядаўна, пры новай уладзе стаў уладаром «багацця з былога панскага прасцягу пад лесам» — дзерава, пабудаваў хату, гумно, хляўкі — зажылі... Як і Пятрок, Хведар таксама, займеўшы свой зямельны пасад, не мог «нагаспадарыцца ўволю»; дый трэба было карміць немалую сям'ю, старых бацькоў. Але галоўнае — Улада заклікала да працы, яна ж і дала зямлю... І малатарню, з-за якое стаўся «кулаком» і згубіў урэшце жыццё, Хведар набыў, каб лепей было працаваць, нікому не адмаўляў у вёсцы, калі трэба было памагчы змалаціць збожжа... Словам, гаспадар, тыпалагічна супадаючы з Петраком Багацькам: той «крый бог, каб калі зрабіў ка-

му шкоду ці ўзяў не сваё з двара»; гэты — «гатовы быў усім пра ўсё верыць, бо сам не хлусіў ніколі, нікога за жыццё не ашукаў». Ды нядоўга, як і заведзена на зямлі пакут, доўжыўся для Хведара гэткі «нескончона зіхоткі рай». Улада гэтаму раю і паспрыяла, Улада ж яго і скасавала, зрабіўшы нястомнага працаўніка «ворагам народа», «кулаком», грамадскім лішэнцам. І Улада і расправілася з жывым чалавекам, разарыўшы жывое наседжанае сялянскае гняздо, заарыштаваўшы няшчасных насельнікаў і выслаўшы іх у далёкі, прамерзлы расейскі край пад Котлас — на бязглуздыя работы, ад якіх людзі мерлі, як мухі. Во як скончыўся летуценны рай — пеклам, малым апакаліпсісам...

Ды галоўнае ўсё ж заключаецца не ў «рэпрэсіі», не ў фізічным прымусе і трыванні; куды больш моцны боль пачаў мучыць патомнага селяніна ўнутры, у ягонай душы. «Ён, гвалтам адарваны ад яе (ад зямлі. — Ю. З.), здаецца, здзічэў нутром ад самоты па ёй, спарахнеў розумам...» Толькі адзін-адзіны надрыў, разлом у жыцці — і разлом фатальны. Без повязі з зямлёю і адзіным кутом на ёй беларускі чалавек дарэшты страчвае якое-кольвек энергетычнае сілкаванне, зусім траціць сэнс свайго бытавання на зямлі. Іменна спазнаны ЖАХ ад страты сэнсу быцця і сублімуецца ў Хведара ў тое пякельнае ЗАВОШТА; ягонае кружлянне па лесе — гэтым апошнім, дасягнутым з высылкі ўлонні яго чалавечае свабоды і незалежнасці — пакутнае іменна марнаю прагаю і неатрыманнем адказу на тое ЗАВОШТА...

Толькі вяртанне дадому, да свае хаты-вытоку і здольна вярнуць беларускаму чалавеку страчаны сэнс быцця. І гэты абсалютны, не ўсвядомлены «розумам» матыў бессвядома кіруе ўсёй істотай чалавека, паводзінамі героя; іменна ім абумоўлена не абумоўленае сюжэтам «занадта доўгае» кружлянне Хведара па лесе, па родных пагорках. Герой цалкам аддаўся памкненню дадому. «Стомлены, згаладнелы, з настылымі мокрымі нагамі,

ён не мог адолець у сабе трывожнага неспакою і міжволі імкнуўся наперад — каб толькі хутчэй. Чалавек нават забываўся на асцярогу і шыбаваў наўпрост... Усё ў ім імкнулася наперад, туды, дзе на ўзлеску павінна было паказацца поле і ягоная асірацелая без гаспадара сядзіба... Няшчасны гаспадар, здаецца, траціў развагу ад нецярпення, узрушэнне калаціла яго нервовай дрыжакай, так хацелася яму згледзець хутчэй дранкавы дах з чырвоным комінам, саламяныя стрэхі хляўкоў...» У лагерным пекле ён «сніў безліч разоў свой падворак, студню з калаўротам, недабудаваны трысцен. Запаветная мэта — толькі пабачыць роднае — «вяла яго доўгія тыдні праз усе нягоды і пакуты сюды, на родныя гоні, у свой кут... Галоўнае было — дайсці, хоць дапаўзці, каб хоць адным вокам зірнуць і памерці...» Не завалодаць — «зірнуць і памерці»: да гэтага саспелы не кожны чалавек, нават, можа, і прайшоўшы нялёгкія выпрабаванні; на гэта гатовы чалавек ужо не зусім зямны — напалову й незямны, духоўны. Пупавіна з родным у Хведара бязлітасна скасавана лёсам, душой ён — адарваны ад месца прывязкі, вольны ў сваёй адарванасці, але й найбольш пакутуе ад таго і таму імкнецца вярнуць «страчаны рай». Ды што страчае гаспадара на радзіме?

«Раскіданае гняздо», пабуранае котлішча, на якім не стала ні дома, ні падвор'я... «Там, дзе некалі была печ, грувасцілася аброслая палыном куча бітае цэглы — усё, што засталося ад печы... Там, дзе быў калодзеж, зеўрала аброслая быльнягом яміна... Пастаяў, узлезшы на кучу бітае цэглы сярод быльнягу, успомніў, як тут некалі грэўся на печы, прыехаўшы ўзімку з лесу ці з дарогі, як тут спалі старыя ды і жонка Гануля таксама. Але бедная яго Ганулька, можа, меней за ўсіх тут грэлася... Хоць бы пакінулі якую пуньку, паветку, хоць бы сабачую будку... Ды не, не пакінулі нічога. Спрэс пустка і разарэнне». Неверагодны па працягласці і труднасці шлях дамоў скончыўся во так няўдала, безвынікова, марнай аказалася запаветная надзея

ўбачыць свой кут цэлым і неяк памерці пасля, заспакоеным родным відном. «Мара апынулася ззаду...» Жаданая мэта — дом — зніштожана ўладаруючымі на радзіме новымі людзьмі, зліквідавана да асноў.

Толькі няпэўная, беспамерная, нічыйная і адначасна ўсіхняя Зямля застаецца ў Хведара Роўбы. Ранейшая запаветная мэта, меўшая куды якое канкрэтнае аблічча ў родным паселішчы,— сублімавалася на ўзровень вялікай, адзінай, агульнай Зямлі. І ўжо нават пабачанае жахлівае разарэнне падворка, малы апакаліпсіс на радзіме не перабіваюць Хведаравага пачуцця шчасця: «Ён быў шчаслівы... Як згледзеў роднае поле і вёску, дык у душы ў яго засмяялася і запяяла...»

Беларус вярнуўся дамоў.

З пусткі на котлішчы яму няма куды ісці; узлезшы на рэшту печышча, Хведар апошнімі зямнымі вымогамі свае памяці ўзгадвае невялікія зямныя радасці, тое важнейшае, чым хоць колькі аблашчыў яго лёс: як будаваліся, нараджалі дзяцей, мыкалі нястачу і трывалі нішчымніцу... Няхітрая «слодыч» жыцця простага беларускага селяніна. Для мяне адзінокая, у цемрыве начы постаць Хведара Роўбы, у святле месяца сядзячага на разбураным печышчы колішняй дамоўкі,— адзін з класічных духоўных сімвалаў беларускага жыцця апошняга часу, народжаных нашай літаратурай у другой палове 80-х гадоў. Гэткі ж па сэнсе, абсалютны па сіле ўздзеяння і прадбачання сімвал у беларускай літаратуры — усё «Раскіданае гняздо» Купалы. Купалаўскі мастацкі вобраз-сведчанне і вобраз-папярэджанне адначасна — у быкаўскай «Аблаве» спраўдзіўся. Далей застаецца толькі напамінак пра ранейшы сімвал — у выглядзе аднаго з эпізодаў аповесці...

Вельмі хутка свядомасць героя, што ледзь паспеў аддыхацца, прыйсці ў сябе ад горкага расчаравання пабачаным, вяртае яму страчаную было на момант сэнсадайную пупавіну: позірк яго канчаткова зварача-

ецца ад разоранага селішча да... могілак — вясковых могілак «з усёй ягонай раднёй, старымі, дзядамі і прадзедамі — усім яго родам». «Зайздросная доля,— думае Хведар,— навекі разам з усімі, у сваім кутку». Сваю ж няшчасную небараку-жонку і малую пакутніцу дачушку Волечку Хведар згубіў, пахаваў далёка ад зямлі продкаў — у прамерзлай балоцістай зямлі пад сцюдзёным Котласам, на ўзбярэжжы жахлівай чужой ракі. Раскулачаны паўсвет мёр у далечыні ад радзімы — ад непасільнае працы, галадухі і сухотаў... Больш, аднак жа, ад «суму-тугі па родных мясцінах, ад нуды вечнага з імі расстання». Праз тыя фізічныя пакуты і ў самога Хведара было прытупілася адэкватнае ўспрыманне жыцця — нават жонку і затым дачку ён пахаваў, «дужа баючыся не паспець» у адведзены тэрмін, «надта спяшаючыся, бо яго маглі чакаць»... Пасля страты жонкі і асабліва дачкі («жыццё адняло ў яго апошнюю радасць, адзіную яго ўцеху») Хведарава ўласнае жыццё для яго страціла ўсякі кошт, «ён далей не надта ўжо і даражыў ім». Толькі адзіная якая-кольвек жыццядайная мэта засталася — ДАЙСЦІ ДА РАДЗІМЫ.

І ён дапяў да яе, дайшоў. Бо галоўным для яго было — не проста дайсці, адным вокам зірнуць, але — ПАМЕРЦІ. НА РАДЗІМУ ХВЕДАР РОЎБА ІШОЎ ПАМІРАЦЬ — вось сакральны сэнс яго памкнення дамоў; матыў імкнення да смерці — любоў да Танатаса. «Можа, не заўжды прызнаючыся сабе, ён найбольш за тым і імкнуўся сюды (паміраць), за тысячу кіламетраў, праз пяць гадоў выгнання». Роўбаў лёс ад моманту зліквідавання трывалых сялянскіх асноў быцця, звякоўвечнага ладу існавання, ад моманту перажыцця нанесенай звонку жахлівай несправядлівасці — чалавекам, які ўсё жыццё толькі і дбаў пра справядлівасць і спагаднасць чалавечую,— незваротна ўзяў кірунак на ўцёкі ад гэткага бязлітаснага свету, ад гэткай сусветнай крыўды. Праз радзіму — адзіны дагэтуль прытулак беларуса ў жыцці — да мудрых

продкаў, што паснулі ў тоўшчы стагоддзяў і знаходзяцца тут, паблізу, на вясковых могілках...

Іншага выйсця для Хведара няма: Зямля, што была для яго ўвасоблена ў родным падвор'і, у родным палетку, перастала існаваць. А чуццё Зямлі суцэльнай, «Зямлі ўвогуле» — для яго чужое, немагчымае. Сэнс для яго мае толькі тое, што блізка, што навокал, што — ЯГО.

Каб утрымацца надалей у гэтым жыцці пасля перажытага, трэба змагчы праіснаваць без зямлі. Ці зможа так жыць Хведар Роўба? Напэўна, не. Дух памерлых продкаў ужо вітальна кліча яго, вабіць з неадольнаю сілай, абяцаючы даўно жаданы — і заслужаны — супачынак. З усёй сілай канчаткова абуджаецца ў Хведаравай знясіленай істоце прыцягненне Танатаса — любоў да Смерці; і ён ідзе за гэтым абяцаючым супакой памкненнем. «Ужо да смерці яго адгэтуль (куды вярнуўся. — Ю. З.) не вытураць...»

Сутнасны перадсмяротны стан Хведара — не зусім зямны; ужо напалову й нябесны. «Да таго свету ён яшчэ не дабрыў, але бадай што сышоў з гэтага»,— так характарызуе павадыр стан свайго героя напрыканцы, у фінале. Таму так люба і абыходзіць Хведар вясковыя («свае»!) могілкі, аглядае ціхамірнае паселішча мёртвых. Калі не Волечка, не жонка, дык хоць ён, бацька і гаспадар — дабрыў і ляжа тут. Знешні час для яго нібыта перастае існаваць: абсалютным становіцца час унутраны, асабісты... Але іменна ЧАС, як знешняя непераадольная гнятлівая сіла, зрабіў Хведарава жыццё «здзічэлым», зрынуў яго з векавечнай, уходжанай продкамі пуцявіны на шлях лішэнца, пярэваратня сярод быццам бы «нармальных» людзей. Ды можа — гэта сам час, самі нармальныя людзі — пярэваратні, у суцэльнае ЗЛО абярнуўшаяся рэчаіснасць? Калі дома бяскрыўдны чалавек асцерагаецца «нармальных людзей»; калі там, дома, «спрэс пустка і разарэнне»; калі загаспадарылі на разбураных

падвор'ях самыя нядбалыя і нявартыя гаспадары,— то, мабыць, гэта не чалавек — «лішэнец» у гэткім свеце, а — сам гэты свет аваўчэў, ашчэрыўся на чалавечнасць гібельнымі ікламі, ад укусаў якіх людзі альбо гінуць, альбо незваротна расчалавечваюцца... Як сын Хведара Роўбы, «вялікі начальнік у раёне», партыйны сакратар — «нібы той цівун»; ад бацькі адмовіўся і прозвішча меўся мяняць, каб анізвання... Такім учора-людзям сёння-партсакратарам бацькі не патрэбны. «Людзі і члены партыі»,— во як саркастычна выказаў сутнасць падзелу таго, даваеннага часу на чалавечае і нечалавечае, нялюдскае, эрдманаўскі «самазабойца». «Парвалася нітка жыцця»...

Вакол Хведара Роўбы — рэаліі антычалавечыя. Хведар яшчэ паспеў пабачыць, як яны ўсталёўваліся: «Распадаліся сем'і, нішчылася людская роднасць, спрадвечная вясковая крэўнасць. Сталі браты як чужыя». Гэта кажа быццам герой — ды ў адзін голас з аўтарам-павадыром. Абодва яны адчулі, што ў свеце, які яшчэ ўчора даваў простаму чалавеку нейкі светлы шанец здзейсніць сваё жыццё, хоць і ў клопатах, але да канца асэнсавана,— адбываюцца непапраўныя, злавесныя «тэктанічныя» змены, зрухі плоскасцяў быцця, сэнс якіх — у змене свету — АНТЫСВЕТАМ, рэалій — АНТЫРЭАЛІЯМІ, рэальнасці — АНТЫРЭАЛЬНАСЦЮ.

«Мусіць, навек адышла дабрыня з мінулам часам,— кажа герой-аўтар,— на змену ёй паявілася нешта новае — жорсткае і няшчаднае».

Чалавек упанурыўся ва ўсведамленне свайго лішэнства ў гэткім свеце, сярод гэтакіх антырэалій. Толькі спрадвечныя сымбалі напаследак яшчэ могуць трохі падтрымаць і — стрымаць яго. Хведар, які ўжо вызначыў сябе як «не чалавека», што «дашчэнту расчалавечыўся» — і гэта сярод «людзей»!.. — сыходзіць у любы яму лес, што «заўжды з міласэрнай гатоўнасцю прымаў яго» і ў якім у яго душу «лілося ціхае адчуванне шчасця». Ён пазнае, здаецца, пошум родных

бярозак, лекуецца гэтай лясной музыкай. Калі не дома, не ў вёсцы, дык хоць у апірышчы шматлікіх пакаленняў яго продкаў — лесе — знаходзіць ён апошнюю зямную лагоду і прытулак. Хоць Прырода напаследак уратоўвае ад бязмежнае роспачы. І ёй, Прыродзе, гучыць гімн: «Усё ж як добра ў лесе на волі! Ніхто цябе нікуды не гоніць, ты не патрэбны нікому, як і ніхто не патрэбны табе. Каб так можна пражыць жыццё! Зрэшты, калісь так і жылі: у хаўрусе з прыродай і лесам, знаходзячы ў ім і пракорм у галодныя гады, і прытулак у часы ліхалецця. Лес абараняў, лес саграваў душу і цела. Хто ж яшчэ большы быў дабрадзей для тутэйшага люду?..» Далей, як мага далей ад такіх, пабачаных ужо даволі людзей і паспытаных рэалій,— далей у лес, у логава ваўчыцы, «абы не з людзьмі»!..

Ужо дасягнута тая запаветная мара — ён вярнуўся дамоў і зірнуў на радзіму. Далей — «што будзе, хай тое і будзе». Думаць пра астатняе Хведар быў ужо бяссільны. Галоўнае — спатолена прага душы.

...Усё далей ідзе Хведар у край лясны, «малавядомы і таямнічы». Багавізна, балота... Ды гэта ж — знак, знак набліжэння новае, таямнічае і невядомае рэальнасці — уладарства Танатаса. Ужо і ногі неяк «пацягнулі ўніз»... Не: зноў яшчэ жывыя думкі імкнуцца туды, на блізкі падворак, да чалавечага цяпла, хатаў, клопатаў аднавяскоўцаў. У святле поўні ён апошні раз вяртаецца да вёскі, на могілкі. І тут гучыць гімн Танатасу: «Хведар нібы заплюшчваў вочы і невідушча стаяў між магіл. Увогуле тут яму было добра, нават спакойна і ўтульна: ён нібы далучаўся да аднасяльчан і ладзіў з імі нетаропкую маўклівую бяседу — і пытаўся, і скардзіўся, і разважаў... Яму нікуды не хацелася рушыць адсюль, тут ён, як нідзе ў іншым месцы, адчуваў сябе ў спакоі, адноснай бяспецы. Мусіць, недзе пад ранак закацілася-знікла поўня, навакол стала цёмна... Аднак цемра яго не палохала». Цяпер ён для свету — здань, начны бесцялесны прывід, ад

якога жахаюцца людзі, а ён — ад людзей-нелюдзяў... Ён адбіўся ад свету нелюдзяў, свету расчалавечвання, стаў не такі, як усе. І таму ён — уладар над сабой-Чалавекам, над сваёй непарушанай чалавечай сутнасцю, якую аблажылі аблаваю тыя, хто належыць гэтаму часу. Хведар — вольны чалавек на нявольнай зямлі.

Бацька гіне.

Нядобрае прадчувае ён для сына-адрачэнца.

Бацька «дашчэнту расчалавечыўся», мог толькі бегчы, уцякаць, як звер. Бо людзі — лютыя істоты, горш за звяроў; «задзяруць і кінуць, і возьмуцца за наступнага». Які час — такія і людзі.

Але ж чалавечая лютасць для Хведара Роўбы ўвасоблена ва Уладзе. Той, што дала яму зямлю і дазволіла гаспадарыць, «жыць-пажываць і дабро нажываць». Паверыў, што ўлада кажа праўду. Аказалася — жорстка падмануўся. Стаўленне Хведара да Яе Вялікасці Улады псіхалагічна вельмі падобнае да адносін да яе... Петрака Багацькі. Выдае, што на гэтых мастацкіх прыкладах мы ўвогуле бачым адносіны беларуса да Улады. Узгадаем яшчэ раз тую смяхотную гісторыю з паездкай Петрака ў Менск, яго смяротную боязь той страхотнай міліцэйскай будкі і панічныя, бясслаўныя ўцёкі ад яе... Вось што ўзрушыла тады Петрака найбольш — непасрэднае судакрананне хоць з колькі-небудзь канкрэтна ўвасобленай Уладай! Таму ён са страшэннай палёгкай і ўцякае-вяртаецца на родны, без-уладны хутар...

Па сутнасці, і перадсмяротны стан Хведара Роўбы блізкі да стану Петрака, з той толькі — істотнай — розніцай, што апошняя безуважнасць Петрака напоўнена ўсё-такі большым, вышэйшым сэнсам: Пятрок знікаў са свету, маючы нейкі свой, унутраны адказ на пытанне, што такое жыццё і ў чым сэнс жыцця чалавека. Хведар такога адказу не мае. Ён — прагне яго... Ды толькі велізарны боль душы — але не супакаенне — спазнае ён на сконе зямнога быцця. Магчы-

ма, Хведар стаў бы Петраком... калі б выжыў. Аўтар-павадыр, што растварыў-аддаў свайго пакутнага, няшчаснага героя багне, толькі-толькі, аднак, пазначыў тыя канкрэтныя рэаліі-антырэаліі, заложнікам якіх стаўся герой. І даў зразумець, што рэаліі гэтыя — антычалавечыя — хоць і патрабуюць увагі, але, абрынутыя на чытача ў дадатак да экзістэнцыяльнай драмы героя, могуць толькі нанесці шкоду мастацкасці твора; дый невялікія, амаль публіцыстычныя адступленні, траха не алюзіі на раскулачванне, сац-«наваяз» 30-х гадоў у Краіне Камуны — паказваюць, што іхняя дэталізацыя ў аповесці была б залішняй; што ў «Аблаве» дастаткова Хведара Роўбы з яго ўнутраным болем, каб адчуць і зразумець драму супольнага быцця. Праўда, адчувальна, што аўтару гэтага ўсё-такі мала, што адным толькі сімвалагізаваннем ён задаволіцца не зможа: ён імкнецца да найпаўнейшага адказу на тое сусветнае ЗАВОШТА свайго Роўбы-народа. І хутка ён, аўтар, здыме ледзь не ўсе эстэтычна-мастацкія ўмоўнасці, шукаючы той адказ... Здарыцца гэта ў аповесці «Сцюжа».

### 3... У ЭПІЦЭНТРЫ. — «СЦЮЖА»

Аўтар — зверхні назіральнік у аповесці «Знак бяды», павадыр у «Аблаве»,— у аповесці «Сцюжа» (1969; 1991) прадоўжыў свой шлях да высвятлення сутнасці, атрымання адказаў на тыя пытанні, што яму, аўтару, смыляць... Здавалася, усё, і так ужо сказана шмат, у «Аблаве», напрыклад, і даволі... Ды не, Павадыр, што прывёў свайго маўклівага пакутніка Хведара Роўбу ў багну, павярнуўся назад, прэч, імкліва пайшоў насуперак Аблаве часу і эпохі, пайшоў праз аблаву, як гэта ўжо неяк зрабіў ягоны герой-партызан Ляўчук з «Воўчай зграі»; як бачым,

разавы вопыт героя нарэшце прыдаўся і самому аўтару, і ён, аўтар, ператварае той эпізадычны высілак героя ў мастацкі высілак цэлага твора — аповесці «Сцюжа». Высілак насуперак Аблаве.

Інакш і быць не магло.

Але цяпер павадыр ператвараецца з маўклівага павадыра-сузіральніка ў гнеўлівага суддзю-абвінаваўцу: ён не канстатуе, ён — кідае гнеўныя словы ў твар Аблаве; ён не баіцца яе... Ён выйшаў з гібельнай багны, каб, пакінуўшы абалонку свайго гаравога бегляка Хведара Роўбы, уцелаісціцца ў новага героя — аднаго з самых актыўных удзельнікаў Аблавы,— магчыма нават — Роўбавага сына, камсамольскага важака...

Так, герой «Сцюжы» камсамольскі актывіст Ягор Азевіч па ўсіх прыкметах падыходзіць на сыноўства Хведара Роўбы. Успомнім: гэта менавіта ў сыне для Хведара ўвасобілася тая нялюдская сіла расчалавечання, ад якое пакутуе герой, не ведаючы, ШТО гэта за сіла і ЧАМУ так дзеецца з ім, сынам прыроды, бязвінным руплівцам ад узыходу да заходу... Іменна ў сыне ўвасабляецца для Хведара тая ананімная знешняя сіла — вінаваўца яго роспачнага ЗАВОШТА. Дарэчы, зусім не выпадковую — сімвалічную ролю ў «Аблаве» адыгрывае колеравы фон развіцця падзей сюжэта: ён — чорны, цёмны, ён ноч, у якой (ужо ў начы, не «ў тумане») блукае чалавек «немаладога веку, даўгалыгі і шырокі ў плячах, але надта худы» — Хведар Роўба; уначы, пад апекаваннем зіхоткае поўні, Хведар адкрывае ў сабе магічнае паяднанне з роднай зямлёй і продкамі; уначы ён дасягае найбольшага ўзроўню спасціжэння сэнсу свайго загубленага, затраўленага светам (ці антысветам?) жыцця — аказваецца, унутраны, бессвядома дзейнічаючы матыў вяртання да магіл продкаў стаўся апошняй сэнсадайнай ніццю ў жыццёвай пуцявіне Хведара. Аказваецца, гэтага, толькі гэтага яму не хапала, каб, страціўшы ўсё ў гэтым ураз панішчаным жыцці, тым

не менш здабыць супачын і памерці з усведамленнем хоць гэткай, магічнай быційнай апоры — сімвалічнага паяднання з продкамі. «Ужо нямала гадоў усе яго намаганні ішлі на адно толькі — трываць. Ён не ўзрываўся, як некаторыя, калі здавалася, трываць было неяк, не абураўся ад кепскіх харчоў, зверскай працы ці людской несправядлівасці, толькі сціскаў зубы, калі тыя яшчэ былі ў яго,— трываў. Мусіць, не было ў свеце такіх абставін, якія б ён не навучыўся трываць. Апроч хіба аднаго — няволі-журбы расстання. Тут ужо ён не мог перайначыць сябе, ягоная натура насуперак усім абставінам імкнулася дамоў — праз безліч небяспек і прыгод...» Праўда, Хведар ніяк не мог прызвычаіцца і да сцюжы, яна яго даймала на працягу апошніх старэчых гадоў... Мерзне ён і на радзіме.

Сын Прыроды Хведар Роўба, не здолеўшы зразумець Свет-Аблаву — выставіўшы яму толькі роспачнае ЗАВОШТА,— на супачын зямнога шляху зноў з ласкі няласкавага лёсу становіцца сынам Прыроды, і хоць бы ў гэтым — умоўная гармонія яго пагібелі. Знік, растварыўся ў багне, «быў тло і ў тло абярнуўся». Толькі вось роспачнае ЗАВОШТА, як маральны — дый духоўны таксама — рахунак Свету-Аблаве засталося, запоўніла наваколле пасля знікнення Хведара; гэтае ж крычачае ЗАВОШТА, трэба думаць, пранізліва звініць у вушах і не дае спакою самому аўтару-павадыру, што быў сумленна давёў сваю місію да канца, праспяваўшы няголасны гімн радзіме Хведара, любасна паказаўшы яе сэнсадайнае аблічча —лес, поле, сялібы... напомніўшы пра звякоўвечную працу беларускага селяніна, у якога дасюль, мабыць, і не нараджалася такіх роспачных, як у Роўбы, ЗАВОШТА... Хведар Роўба паспеў далучыцца да роднага краявіду, да роднай зямлі, зліцца з ёй целам.

Але мы казалі пра цёмны, начны фон Роўбавага блукання-знікнення як акрасу сімвалічнага значэння. Так яно і ёсць: гэта не светламу — цёмнаму Свету-

Аблаве («цёмным сілам») кідае Хведар сваю жальбу; гэта пагрозлівы колер знешняй, наступаючай антырэчаіснасці.

...Сын Роўбы — Ягор Азевіч — частка тае «цёмнае сілы». Павадыр, таймуючы светлы нораў сваёй істоты, уздыхнуўшы, мусіць — што зробіш, выйсця няма, калі прагнеш здабыць адказ на Роўбава ЗАВОШТА — уцелаісціцца, «рэінкарнавацца» ў гэтую персаніфікаваную ў герої сілу. Дарэчы, герой «Сцюжы» таксама, па сутнасці, монагерой, яшчэ больш за героя «Аблавы» адчужаны ад аўтара-апавядальніка: ён кажа нават не сваёй, не геройскай мовай, ён кажа пераважна мовай змешчанага ў ім унутры аўтара-павадыра. Невыпадкова стыль маўлення героя «Сцюжы» выдае яго як быццам сённяшні (г. зн. аўтарскі) публіцыстычны розум... Разам з пэўна нялюбым яму героем (хоць і не пазбаўленым шкадобы) павадыр мужна праходзіць па ўсіх этапах яго біяграфіі.

Крытык Сяргей Дубавец назваў ранейшую «Аблаву» аповесцю-магістралам, якая як бы падагульняе ўсе папярэднія аповесці Васіля Быкава. У такім разе «Сцюжа» — магістрал ад магістрала, бо быкаўскі Павадыр, што ад аповесці «Пайсці і не вярнуцца» пайшоў шляхам рэтраспекцыі, у глыб кар'ера свайго часу, па сутнасці, робіць крок зноў наперад — з 30-х гадоў бліжэй да вайны, але разам з тым і крок яшчэ больш глыбока — у самы канцэнтрат даваеннай рэчаіснасці, у гушчу рэпрэсій, у эпіцэнтр д'ябальскага палявання на чалавека. Аповесць «Сцюжа» фабулай як бы з'ядноўвае вайну і перадвайну; проціборства сіл чалавечнасці з ворагам прышлым — немцамі-акупантамі і ворагам унутраным — свойскім, у асобе нялюдскай ідэалогіі, ладу, «органаў»... І тое і другое — часткі аднаго суцэльнага ўсяленскага ЗЛА, супраць якога ў свой час паўстала адважная Сцепаніда, якому духоўнымі сродкамі процістаяла пападдзя Бараноўская, ад якога ў адзіноце загінуў і Хведар Роўба.

Што герой «Сцюжы», у якога аўтару давялося пераўвасобіцца, пэўна яму, аўтару, не па душы, сведчаць ужо першыя радкі аповеду пра акалічнасці ляснога — зноў ляснога — побыту героя. Бы нехаця, быццам супраціўляючыся, рухаецца рэінкарнаваны аўтар па сцяжыне жыцця свайго героя. Гэтая нехаць неўпрыкмет перадаецца і чытачу, што паспявае стаміцца амаль адразу ж, ступіўшы першыя крокі за пераўвасобленым павадыром,— і гэта ўжо прывыкнуўшы да яго цяжкай, медзведзяватай хады-маўлення.

Але чытач, хоць рух за апавядальнікам даецца яму цераз сілу, усё-такі рушыць праз апавядальніцкую нехаць — туды, куды і сам апавядальнік ідзе не з вялікай ахвотай. Але і чытач і сам апавядальнік урэшце добра ведаюць, што праз 5—10 старонак неўпрыкмет пераадоленая абаістая нехаць саступіць месца непераадольным сілам прыцягнення быкаўскага тэксту-сяйва, якія няўмольна памкнуць і аўтара і чытача туды, у глыб тэксту, па сутнасць, па адказ на апошняе ЗАВОШТА...

У «Сцюжы» мы не знаходзім ані петракоўскага агляду сялібы, ані Роўбавага сузірання роднага краявіду. Усё значна прасцей — і значна складаней. Тут, у «Сцюжы», аўтару, увайшоўшаму ў скуру таго камсамольца-аблаўшчыка, не да любавання-сузірання, тут не да таго. Тут на тое няма часу, бо тут сышліся ў жорсткім двубоі дзве субстанцыі — чалавечая і антычалавечая. Чалавечая — у асобе аднаго-адзінага, сціплага, звычайнага вясковага хлапца Ягора Азевіча; антычалавечая — ва ўсёй мастацкай рэчаіснасці. Як быццам з ранейшых твораў Быкава сабраны ў адно злавесныя дэталі-эпізоды-матывы і ўтварылі супрацьчалавечы АНТЫСВЕТ, АНТЫРЭАЛЬНАСЦЬ. Павадыр, у каторага на гэты раз няма свабоды хады, змушаны толькі канстатаваць гэты свет антырэалій. (Дарэчы, да якога жанру можна аднесці звычайную аповесць звычайнага

рэалізму, дзе кажацца пра незвычайную, супернезвычайную рэчаіснасць — антырэчаіснасць; дзе мастацкія дэталі, калі ўдумацца ў іх вар'яцкі сэнс, у сэнс іх д'ябальскага ўздзеяння на рэальнага, жывога чалавека,— куды мацней па антырэальнасці, чым аруэлаўскі выдуманы антысвет «1984-га»? Настолькі рэальных антырэалій, як у быкаўскай «Сцюжы» — 1991, не ўдалося, бадай, прыдумаць ніводнаму пісьменніку-«антыўтапісту». Уся справа ў тым толькі, што Быкаў сваёй антырэальнасці н е  п р ы д у м в а ў. Дык што гэта: рэалізм, абвяргаючы сам сябе, абсурдны? Ці — звышутапічная не-ўтопія?)

Знакі бяды ў «Сцюжы» паўсюль — у чыстым выглядзе, маніфеставаныя наўпрост, без «мастакоўскага» падыходу. Умоўна месца дзеяння зноў вынесена кудысь на поўнач Віцебшчыны, туды, у старазапаветны непралазны беларускі кут, дасюль не адкрыты ні краязнаўцамі, ні аматарамі геаграфічных падарожжаў па Бацькаўшчыне; тыя памежныя раёны з Латвіяй, Расіяй і дасюль захоўваюць сакральную некранутасць і маўклівасць, беларускую, калі можна так сказаць, цноту. Вось тут і зводзіць аўтар твар у твар свет чалавечага, дабрыні і святла, і — свет антычалавечага, зла і цемры. Бацькі Азевіча, простыя сяляне, нават радыя, што сын пайшоў у горад на савецкую службу — на лягчэйшы і больш надзейны, чымсьці ў вёсцы, хлеб. Ды няведама ім, што хлеб той лягчэйшы — непапраўна атручаны... Млявасць, апатычнасць, бязвольнасць сялян; нішчымніца ў вёсцы... «Перасталі і баяцца...» — бядуе заўзяты калектывізатар-агітатар Азевіч, бачачы абыякавасць сялян да свайго падсавецкага калгаснага лёсу. «Перасталі і баяцца...» — апафеоз заняпаду, рыса быцця, за якой альбо смерць (Хведар Роўба таксама ж не баіцца — смерці), альбо... Вайна. Яна, іменна яна — вайна, неспадзеўна парушыўшая далейшае паміранне Азевічавага краю пад саветамі,— і выратуе ад галоднай смерці тую цётку, што

агрэе ў сваёй пуні хворага, няўдалага воіна Азевіча. Прытуліць вінаваўцу перадваенных бедаў вёскі, ідэалагічнага цівуна... Свайго, зрэшты, вясковага сына. А можа, гэта і не зусім незнаёмая цётка; можа, гэта пераўвасобленая ў безыменную цётку пападдзя Бараноўская з рамана «Кар'ер», што дала прытулак параненаму чырвонаму камандзіру Агееву? — **Кіруючыся адно толькі сумленнем**, каторае адно і можа дапамагчы людзям правільна пакіравацца ў бясчассі... «Калі нічога немагчыма зрабіць, трэба сабраць сілы, каб застацца сабой»,— вуснамі пападдзі Бараноўскай тлумачыць сваю мараль павадыр. «Усё ж людзі, з'яднаныя братняю справай (змаганнем з фашыстамі. — *Ю. З.*), павінны пазбыцца варажнечы і зажыць па справядлівасці. Колькі ж можна ваяваць між сабой?» — праз падсвядомасць Азевіча выказвае свой не дужа ўпэўнены спадзеў аўтар, стомлены бясконцай, з аповесці ў аповесць, барацьбой сваіх са сваімі...

Толькі ці дойдзе гэты шчыры спадзеў, сэнс гэтай ратавальнай ісціны да чалавека, прыбранага АНТЫСВЕТАМ, які, больш таго, ператварыўся ў дзейснага, перакананага яго служку,— да Азевіча?

Як і ў герояў «Знака бяды», «Кар'ера», «Аблавы», магчымасці выбару ў героя «Сцюжы» ад пачатку надта малыя, а з развіццём падзей зусім сыходзяць на нішто. Герой, як іскандэраўскі трус, толькі пакорліва рухаецца да пашчы АНТЫСВЕТУ, каб стацца ягонай часткай. Думаецца, Быкаў-павадыр надзвычай удала — бо наўмысна — выбраў у «Сцюжы» варыянт аўтарскай рэінкарнацыі: ні ў вопытнага, адукаванага камандзіра (як у «Кар'еры»), ні ў бітага жыццём мужыка («У тумане»), тым больш ні ў душэўна цнатлівага селяніна Роўбу,— у хлопца-падлетка, наіўную душу, якой належала адолець, перамагчы неадольную і непераможную нават для самых мужных і разумных антырэальнасць. З поўным поспехам пачварны ідэалагічны свет забірае ў свае служкі вясковага хлопца, адукоўвае

яго на свой д'ябальскі кшталт і ставіць у шэрагі «калектывізатараў», «перавыхаваццеляў», «палітінфарматараў». Як будзе адбывацца перараджэнне, прыручэнне, антытрансфармацыя светлай з народзінаў душы ў душу цёмную, адчужаную ад першасутнасці? Вось, бадай, у чым заключаецца эзатэрычны падтэкст сюжэта «Сцюжы», і мы маем магчымасць услед за аўтарам, агаломшаным падзеямі, што адбываюцца з яго героем, прасачыць этапы ініцыяцыі «наадварот».

Зрэшты, этап толькі адзін — і варункі яго нам ужо знаёмыя з «Кар'ера». Там герой Агееў таксама падпісвае паперу на супрацоўніцтва з ворагам; падпісвае, па сутнасці, фальшыва, за неіснуючага Бараноўскага, ды ўсё ж — падпісвае... Праўда, на тым эпізодзе аўтар не засяроджвае ўвагі, нават пасля не робіць «сімптаматычных» наконт яго агаворак: надта ўжо ўдала той эпізод выйшаў (адразу параўноўваецца з фіналам сартраўскага «Мура», дзе герой таксама быццам «гуляе» ў здрадніцтва, ды ўрэшце гульня ператвараецца ў сапраўднасць, здрада разыграная робіцца здрадай рэальнай...). У «Сцюжы», насупраць, увага аўтара на моманце «падпісання» яўна засяроджана. Па значэнні сцэна ці не такая ж, як у гётэўскім «Фаўсце» сцэна дамаўлення Фаўста з Мефістофелем: пісьмовае паяднанне з сіламі цемры. Фаўст, вядома, на тое і Фаўст, каб, смеючыся, падпісаць смяхотную для яго паперу і на свой лад прадоўжыць гульні з лёсам. А што наш Азевіч, як ён выглядае пасля таго насампраўднага падпісання, сарганізаванага камсамольскай блудніцай? «Кепска разумеючы, што робіць, Ягор памарудзіў крыху і вывеў над самым беражком "Азевіч Я." ...Ён застаўся, мала што адчуваючы. Ён быў зусім збіты з панталыку, з натугай, спакваля пачынаючы разумець, што адбылося. Толькі праз нейкі час даўмеўся, што адбылося кепскае...

Поруч з бязвінным, але прыбраным Часам Ягорам мы бачым іншую постаць — яўрэя Ісака, на якога

насоўваецца той жа самы антысвет, што і на Ягора. Па сутнасці, у асобе Ісака аўтар як бы сімвалізуе сілы дабра, светлыя сілы, што існуюць усёчасна і ўсюдысна, але ўсёчасна і ўсюдысна ім знаходзіцца супрацiўнік, які мае схільнасць да разрастання ў памерах і завалодання абшарам сіл дабра. Якое выйсце ёсць у сіл дабра ў такой сітуацыі, калі іх магчымасці звузіліся да аднае кропкі — паасобкавае чалавечае душы? «Застацца сабой...» Як — «застацца»? «Поўная пакорнасць лёсу...» — такі, амаль тэічны выгляд мае стары набожны яўрэй Ісак у час арышту энкавэдзістамі (у часопіснай першапублікацыі аповесці напэўна памылка друку — «пэўная». — *Ю. З.*). «Поўная пакорнасць лёсу» — **адзінае** выйсце для сіл дабра, каб застацца сабой у часе суцэльнага наступу д'ябальшчыны? Выбар, прама скажам, невясёлы. Дый ці выбар?

Мы забыліся згадаць герояў, надта ж падобных да Петрака і Сцепаніды, толькі пададзеных хутчэй як «цені», чым героі. Пэўна ж, гэта — Ягоравы бацькі, імён якіх мы так і не даведаемся (ці не зашмат ананімных герояў-«ценяў»?). Павадыр толькі паказвае нам, амаль з рэпарцёрскім скораказаннем,— як за лічаныя гады — паводле «хранаметрыі» сюжэта — састарваецца, знясільваецца і канае ад бясплённай працы бацька (добра, што яшчэ — так, а не дзе-небудзь на Салаўках...); бачым ушчэнт збалелую, хоць і не старую яшчэ маці, а на панадворку — панаванне галоднай смерці і мору. «Пазнікалі жаніхі, а каторыя засталіся, дбалі не пра жаніцьбу — пра тое, каб пракарміцца...» І гэта ў вёсцы, пры канцы 30-х...

...Але «падпіскай» справа героя не скончылася. Свет антырэалій гэтым не абыходзіцца: яму трэба дзейсныя, «па перакананні» служкі, не толькі вычурная мова (ёй — асобая ўвага; «шершавый язык плаката», ён у «Сцюжы» скрозь напаказ, ён наўмысна не прыкрываецца, а падкрэсліваецца аўтарам і гучыць:

лозунгі, тэарэмы, парадзіраванне кароткага курсу...). Вышэй мы задаліся пытаннем наконт жанру аповесці; лозунгавы сац-«нававяз», пададзены як знарок прыдуманы аўтарам, не як вычурны моўны канструкт, а — як натуральнае гукавое тло рэальнай рэчаіснасці (аповесць жа — рэалістычная!),— яшчэ больш завастрае гэтае пытанне наконт жанру. Адной такой рэальнай мовы — дастаткова, каб зрабіць нармальнага чалавека з нармальнай мовай — вар'ятам, ненармальным, зомбі. Гэта зноў-такі дыктуецца законамі антыўтопіі; але ж рэалістычная аповесць сваёй фактурай прагназуе будучыню рэальную, не выдуманую... Безумоўна, за такую рэалістычную аповесць у 1969 годзе аўтару не паздаровілася б,— таму, зрэшты, ён і адклаў свой рукапіс на дваццаць гадоў, не маючы ніякай надзеі надрукаваць аповесць раней (прызнанне пісьменніка ў адным інтэрв'ю 1993 года, пасля публікацыі «Сцюжы» ў часопісе «Полымя»).

Зомбі толькі і маглі быць дзейснымі служкамі антырэальнасці: прыдушыўшы голас сваёй душы — сумлення, яны душылі далей і ўсё навакол, што ім загадвала іх антычалавечая сістэма, прыслужнікамі якой яны ўжо напалову сталі. І вось — трэба канчатковае закабаленне, канчатковы перапом асобы, каб руху назад не адбылося ніколі. У «Сцюжы» — гэта эпізод разбівання жорнаў. *«Рабілася ўсё горш і горш, бяда падступала ўсё бліжэй... Праз шэсць падворкаў стаяла і ягоная хата. А ў хаце жорны. На якіх і ён нямала намалоў у свой час — на хлеб, на зацірку, бліны... Разварушаны і знямелы, бы ў кепскім сне, ён хадзіў з гэтымі людзьмі па знаёмых падворках, стрымана, чужым голасам вітаўся з суседзямі і моўчкі ішоў у сенцы, у трысцен ці ў істопку (змалку ведаў, дзе што ў кожнай сям'і), знімаў верхні камень і выносіў на вуліцу. Ён маўчаў. Бабы крычалі і плакалі... Так яны дайшлі і да Азевічавага падворка... Увайшлі ў сенцы... Ягор ірвануўся да жорнаў і ўхапіў*

*знаёмы, даўно ўжо не тоўсты і не дужа цяжкі камень. Ён нічога не хацеў ні тлумачыць, ні нават доўга затрымлівацца тут. Бегма вынес камень на агарод, дзе з пустазелля пад плотам тырчаў вялікі круглападобны валун, з усяе сілы ўдарыў па ім. Жорнавы камень разваліўся на дзве палавінкі, і ён, хістаючыся, з апошніх высілак вярнуўся ў двор... З хаты чулася глухое галашэнне маці... Астатняе Ягора ўжо не надта трывожыла, самае прыкрае ён перажыў.* **Штосьці ў ягоных пачуццях зламалася, і ён выразна адчуваў, што рабіўся інакшым, чым прывык адчуваць сябе».**

Жорны, безумоўна, рэч, рэч звыклая, але ў «Сцюжы» гэта — рэч-сімвал. Сімвал яшчэ не кранутай канчатковай ніці дабра, знак яго жывасці. Расколваючы ўласнаруч дзесяткі жорнаў-рэчаў, а ўрэшце бацькоўскія жорны-сімвал (нездарма ж так «глуха галасіла» маці; плач — над усёй Беларуссю...), Азевіч расколвае рэшту ўласнага сумлення, адпрэчвае яго351назаўсёды і — *«Штосьці ў ягоных пачуццях зламалася, і ён выразна адчуваў, што рабіўся інакшым...»*. Што гэта, як не абарачэнне ўчора-чалавека ў сёння-вурдалака? Між іншым, Быкаў застаецца пэўным сваёй схільнасці да сімвалізацыі тэкставых з'яў: пры канцы за героем увязваецца, як ягоны сімвалічны цень, сабака Ваўкалака — не інакш знак чалавека-вурдалака...

Замбіраванне скончана: не ў антыутопіі — у рэалістычнай аповесці.

Такім чынам, аўтар, што ішоў да атрымання адказаў на тое ўсяленскае ЗАВОШТА, прыйшоў да рэалій, якія яго выклікалі. Гэта Хведар Роўба памірае, гіне, не ўцяміўшы, за што ён гэтулькі трываў. Роўба і не мог таго ўцяміць, бо жыў натуральным сялянскім прыродным быццём, кіраваўся натуральнай чалавечай мараллю. Жахлівае насоўванне нейкай пабочнай, аграмаднай пагрозы сваёй маралі Роўба ўспрымае толькі з непрыхаваным жахам — і зміраецца з ім; сэнс яго смерці надае хіба экзістэнцыйная гатовасць памерці

(«яшчэ жывы, але ўжо часткова і там»). Герой «Сцюжы» — герой не столькі экзістэнцыйны, колькі «ідэалагічны», прама сутыкнёны з тымі самымі пачварнымі рэаліямі-антырэаліямі, якіх падсвядомасна жахаецца Роўба, так і не спасцігнуўшы іх. Праз Азевіча аўтар-даследчык пранікае ў тыя рэаліі жаху — антырэаліі жыцця; герой робіцца даносчыкам, калектывізатарам, партыйным служкаю. Ён — закладнік антырэалій; голас яго сумлення, душы адрэзаны ад таго, што ён **робіць**. Голас яго душы так і не прабіваецца, не пратэстуе супраць абставін, як гэта было ў герояў «Знака бяды» і ў героя «Аблавы». Нават апынуўшыся ў адзіноце на пачатку вайны — і таму ўспамінаючы мінулае,— Азевіч не столькі ідзе да канчатковай ісціны, толькі яе **баіцца** (і баіцца рэальнае жыццё, што прыйшло да яго ў асобе жанчыны-ратавальніцы ).

Галоўнае ў аповесці — не мастацкая пазіцыя апавядальніка і не эвалюцыя героя,— галоўнае — **самі рэаліі**, пра якія гаворыцца, сярод якіх існуе герой і ўвесь народ. Вось дзе карціна суцэльнае бяды — а не адзінкавых «знакаў». Вось дзе апакаліпсіс беларускай вёскі 30-х гадоў. Што тут да «публіцыстычнасці» пазіцыі апавядальніка, калі пазіцыя яго так моцна апасродкавана: аповесць накіравана да нас непасрэдна, уласна сваёй фактурай, а не «манерай» — да нашай сучаснай здольнасці ацаніць мінулае і зрабіць самастойныя высновы.

Можна сказаць, што гэта таксама і экзістэнцыйная аповесць — у тым сэнсе, што яе эстэтычнае ўздзеянне заключаецца ў непасрэднасці перажыванняў аўтара, у прымерванні чытачом падзей і лёсу героя **на самога сябе** (чаго варты эпізод разбівання жорнаў у роднай хаце? А як бы **я** паступіў у гэтым выпадку?..). А карціна ў хаце, дзе ўсё спакваля памірае, дзе памірае жывой маці, дзе — подых магілля? Навошта нам тут пазіцыя аўтара?

Жыхары Азевічавай вёскі ўрэшце ператварыліся ў... Роўбаў: «Перасталі і баяцца...»

А ў каго ператварыўся герой? Экзістэнцыйная драма яго, прама скажам, у параўнанні з лёсамі яго літаратурных папярэднікаў, Петрака і Сцепаніды, Хведара Роўбы — не надта глыбокая і не настолькі балючая, каб выклікаць спачуванне: галоўны спадзеў палягае хіба на тое, што сапраўдная пераацэнка жыцця ў яго яшчэ даспее, што герой яшчэ прыйдзе да праўдзівай душэўнай драмы. Але на гэта — нельга нешта загадаць: магчыма, у сумленным змаганні з ворагам з цягам часу Азевіч і зможа дасягнуць стану Петрака, і спазнае сапраўднае вызваленне з-пад улады акалічнасцяў... Ды той Азевіч, што ў «Сцюжы», шлях вызвалення яшчэ не намацаў, у яго яшчэ «выбару ніякага». А вызваленне — гэта якраз ВЫБАР. Выбар паміж сабой і не-сабой, паміж сабой і — д'ябальшчынай... Калі «душа, пра іншы марачы абсяг, свой склеп пануры пакідае».

...Сілы зла, падпісаўшы пакт на супрацоўніцтва не проста з адзінкавымі людзьмі — з усёй краінай,— залілі рэальнай крывёй шостую частку Зямлі. У «Сцюжы» гэты жахліва-рэальны сэнс заключае ў сабе сон героя пры канцы аповесці — як на маю думку, адзін з найбольш сімвалагізаваных па ступені канцэнтрацыі сэнсу, абагульняючы сон быкаўскай прозы. Гэты крывавы сон тычыцца той галоўнай, глабальнай СУТНАСЦІ ЧАСУ І ПАДЗЕЙ, якую ўсёчасна шукаў, прагнуў знайсці Павадыр-аўтар разам са сваімі героямі-пакутнікамі. Гэта і адказ на роспачнае Роўбава ЗАВОШТА. *«Сніўся яму (Азевічу. — Ю. З.) нейкі дзіўнаваты сон, быццам ён ходзіць па кветніку... толькі кветнік гэты на цэлае поле... — і нехта кажа яму, што за кветнікам роў... але як ён дайшоў да рова, дык убачыў там кроў. Кроў лілася з кветніка, цурчала з голых абрываў на тым беразе, крывавыя ручаі сцякалі ў дно і нікуды болей не цяклі, кроў сабралася там у глыбокую сажалку. І тады ён убачыў, што і ягоныя рукі ў крыві... Тут аднекуль паявіўся ягоны бацька чамусьці з Белалобікам, уклаў*

*повад у яго руку, а сам паляцеў-паляцеў... здаецца, узляцеў на неба... На тым абрывістым беразе рова паявіўся нацдэм Дарошка. Нібы вясковы дзед, той стаяў чамусьці ў нейкім белым убранні, прасцінаючы рукі над ровам, і нешта не то абвяшчаў, не то маліўся ці праклінаў каго, а абапал яго цурчалі з абрыву крывавыя ручаі...»*

Замбіраванне працягваецца. Толькі за дзесяцігоддзі эксперыменту на людзях у зомбі ператвораны пэўны свет, краіна і ці магчыма яе адрабіць наноў?..

А дзе наш Павадыр, куды зацяўся ён, прывёўшы чытача не куды-небудзь, а ў самы эпіцэнтр рэпрэсій? Ці не даканалі яго канчаткова рэальныя антырэаліі, пабачаныя праз героя-антыгероя? Не. Да мужнасці Павадыра, ён не схібіў, не зламаўся ўслед за героем. Ён мусіў пакінуць гэта «замбіраванае» цела і выйсці адзін на адзін супраць АНТЫСВЕТУ: адзін-адзіночка бесклапотны дух супраць сонму зрэалізаваных духаў зла. Напамінкам аб існуючых дзесь, трансцэндэнтных, аб'ектыўных сілах дабра засталася хіба «вялізная будыніна сінагогі» — кінулася ў вочы «вялізная»...

Зброя Павадыра адна, усё тая ж — Слова, што мужна б'е ў цэнтр, у эпіцэнтр зла. «Слово есть поступок» — гэта з талстоўскіх максім. Але што гэта за Слова? Такіх слоў з вуснаў Павадыра-празаіка мы яшчэ не чулі; хіба толькі прад-словы (у тым жа «Кар'еры», у «Знаку бяды»... ды і ў «Мёртвым не баліць»). Але тут трэба зважыць на тую магічную трансфармацыю, што здарылася з аўтарскім «Я»: яно пакінула які-кольвечы канкрэтны мастацка ўвасоблены абсяг і загаварыла ад імя Павадыра-чалавека... Быкава-палітыка. Эзатэрычныя матывы трансфармаваліся ў палітычныя, а ўслед за гэтым трансфармавалася і мова: з мовы прозы — у мову публіцыстыкі. І Павадыр-апавядальнік становіцца павадыром-суддзёй; пісьменнік-рэаліст паслядоўна праходзіць стадыі апісальна-рэалістычнага, экзістэнцыйнага і сімвалісцкага спа-

сціжэння «свайго кавалачка часу» («Знак бяды» — «Аблава» — «Сцюжа»). А ўрэшце, перасягаючы і так кволую мяжу сімвалічнай умоўнасці, аўтар увогуле пераадольвае антыномію мастацкай творчасці / грамадскай пазіцыі: усе ранейшыя мастацкія матывы кандэнсуюцца ў рамках палітычнай публіцыстыкі і публічных выступленнях, якія і ёсць на сёння ці не галоўным полем бою мастака. Мастака-ўжо-палітыка... Ды не-не і ў мастака-палітыка, як самотны напамін пра існаванне ўсё ж іншай, больш драматычнай і больш прыцягваючай мастакоўскую душу паасобкава-чалавечай рэальнасці,— прарываюцца ледзь не талмудычнай журботнасці словы: «Усё, відаць, ні адно грамадства і ні адзін лад чалавеку ніколі не дадуць. Так ужо заведзена: чалавек застаецца нейкім чынам адзін на адзін з жыццём і — будзе трываць...»

Мастак-палітык кліча на паўстанне — супраць антырэаліяў, якія за дзесяцігоддзі разрасліся да памераў астранамічных, увайшлі ў нашу плоць і кроў, сталіся нябачнай часткай нашых істот і душаў. Ці пачуем гэты зычны голас Быкава-суддзі; ці, можа, і на гэты раз спраўдзіцца — у каторы ўжо раз на Зямлі пакут — біблейскае «Няма прарока ў сваёй Айчыне»? Спадзевы, адны спадзевы застаюцца...

# МІЛОСЦЬ ДА ЗЯМЛІ ТАНАТАСА

Паэтыка смерці ў творах Васіля Быкава*

Цікавасць да тэмы абумоўлена найперш цікавасцю да эзатэрычнага ці анталагічнага падтэксту мастацкай творчасці як ці не самай «знакавай» са знакавых сістэм. Не сакрэт, што дагэтуль, прынамсі, вопыт вайны (у літаратуры) і заходнееўрапейскай, і польскай, і савецкай беларускай, і расійскай крытыкай разглядаўся пераважна ў аспекце батальным, псіхалагічным альбо эпічна-тераічным (кажу, зразумела, пра метадалагічную дамінанту, а не ўвесь абсяг крытыкі). А між тым, што як не вайна ёсць больш эзатэрычнай падзеяй чалавечай гісторыі? — Падзеяй, калі заўгодна, экзістэнцыяльнай у найбольш выяўленым, канцэнтраваным выглядзе? Невыпадкова сёння, прынамсі ў беларускай літаратурнай крытыцы, назіраецца новае звяртанне да ваеннай прозы, але ўжо пад новым — метафізічным — ракурсам. І хай парасткі батальнай метафізікі ў нас пакуль толькі фармуюцца, ды, здаецца, такі вопыт асэнсавання вайны можа падацца цікавым і для нашых калег.

Справа ў тым, што вайна сама па сабе, як быційны катаклізм, у свядомасці (а найбольш, пэўна, у падсвядомасці) беларусаў пакінула адмысловы след. Вопыт усенароднай партызанскай вайны пакінуў, адпаведна, і ўсенародны адбітак у беларускай ментальнасці (думаю, памяць аб апошняй вайне ў нас розніцца ад па-

---

*Рэферат, выкладзены на міжнароднай канферэнцыі «Духоўнасць народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы: Эрас і Танатас-II» (Люблін, красавік 1994).

мяці палякаў, літоўцаў, украінцаў і рускіх). Апроч таго, паводле ўдакладненай статыстыкі, у той вайне загінуў не кожны чацвёрты беларус, як лічылася раней, а ці не кожны трэці... Таму, па сутнасці, у гісторыі народа быў пастаўлены агульнанародны, «людоўы» эзатэрычны эксперымент, калі са з'явай Танатаса судакранулася ці не большасць людзей. І такі вопыт не мог не паўздзейнічаць на ментальнасць і, адпаведна, не мог не выявіцца ў мастацтве, у тым ліку і ў літаратуры.

Што датычыць гісторыі, дык у супольнай мінуўшчыне нашых продкаў — а гэта XIV—XVIII стагоддзі, часы перш Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага і Рускага, затым Рэчы Паспалітай, ажно да трагічнага 1794 года,— і раней былі ўсенародныя сутычкі са смерцю. (Тут, дарэчы, мне прыходзіць згадка пра сімвалізм карціны І. Бергмана «Сёмая пячатка» (1956), дзе паядынак рыцара са Смерцю як бы сімвалізуе саму сутнасць таго гатычнага часу; гэтаксама той час сімвалізуе і медзярыт Альбрэхта Дзюрэра «Рыцар, смерць і д'ябал» (1513).) У гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы была пераможная Грунвальдская бітва (1410); былі ці не тры стагоддзі геапалітычнага супрацьстаяння з Маскоўскай дзяржавай, падчас якога ў войнах і збройных сутычках адбывалася татальнае спусташэнне ўсходнебеларускіх гарадоў і мястэчак (цяпер Віцебская і Магілёўская вобласці); нарэшце,— для нас гэта надзвычайны, жудасны факт,— «эпоха патопу» (паводле Генрыка Сянкевіча), сярэдзіна XVI стагоддзя, войны Рэчы Паспалітай са Швецыяй, Маскоўскай дзяржавай і Украінай. Тады беларусаў спасцігла першая сацыяльна-дэмаграфічная катастрофа —загінула альбо эміґравала са сваёй радзімы больш паловы насельніцтва. Ці не былі тыя падзеі найперш катастрофай ментальнай, псіхалагічнай у гісторыі і беларусаў, і палякаў, і літоўцаў, і ўкраінцаў,— усіх нашых сярэднееўра-

пейскіх народаў? («Сярэднееўрапейскіх» у сэнсе культуралагічным, а не геаграфічна-палітычным.) Уяўляецца, без таго ментальнага вопыту, спароджанага вайной, без агульнанароднага паядынку са смерцю ў познім сярэднявеччы і Новым часе не было б і такога мужнага, метафізічна мужнага процістаяння фашызму ў XX стагоддзі. Нашы народы, нашы бацькі — у большасці сваёй сялянскі, сельскі люд — *эзатэрычна* былі гатовы да такога змагання, і ў гэтым, напэўна, і палягае, можа, адна з галоўных прычын перамогі над фашызмам. Ва ўсякім разе, як здаецца, да сутнасці апошняй сусветнай вайны мы яшчэ не раз будзем звяртацца, шукаючы за грукатам зброі эзатэрычны сэнс падзей...

Напэўна, само напяцце чалавечага духу падчас вайны паспрыяла затым яе надзвычайнай паэтызацыі сродкамі літаратуры, кінематографа і выяўленчага мастацтва. Вайна ў творах Альбера Камю і Жана-Поля Сартра — гэта зусім не тая вайна, што ў творах Васіля Быкава, Віктара Някрасава, Алеся Адамовіча. (Бяру прозвішчы блізкага, экзістэнцыянальнага накірунку ў літаратуры.) Напэўна, тэатралізаваныя ўцёкі з нямецкага палону Сартра і цяжкая кантузія і раненні пад Кіраваградам Васіля Быкава гэтак жа розняцца, як розніцца сугестыўнасць іх прозы: калі ў п'есах Сартра адбываецца экзістэнцыйная гульня *на фоне вайны,* то ў аповесцях Быкава *сама вайна* спараджае экзістэнцыялізм быцця. Менавіта таму, як падаецца, творчасць Васіля Быкава ўдае сабой агульначалавечую каштоўнасць, бо ў яго творах сублімуецца не маргінальны і не лакальны ваенны вопыт, а — вопыт эпіцэнтра падзей, дух глабальнага сутыкнення зброі, псіхалогіі і духу. З эпіцэнтра вайны, з эпіцэнтра сталінскіх рэпрэсій (у апошніх аповесцях «Аблава» (1988) і «Сцюжа» (1969; 1991) вядзе аповед пісьменнік і туды ж, за сабою, кліча чытача.

Менавіта з аповесці «Знак бяды» пісьменнік вельмі

выразна пачынае звяртацца да нацыянальных філасафем, да архетыпаў народнай анталогіі. І якраз польская крытыка, шмат раней за савецкую, падкрэслівае з нагоды яго ваенных, «акопных» твораў, што «ў творчасці беларускага пісьменніка вылучаецца моцная філасофская насычанасць аповесцей». Гэта адзначана пры канцы 1960-х. Але праз увесь час пісьменнік ад праўды акопнай і экзістэнцыялізму вайны набліжаўся да праўды быцця і народнай экзістэнцыі. Сёння ў беларускай крытыцы прынята лічыць, што героі быкаўскай аповесці «Знак бяды» (якая была шчодра ўлаўрана яшчэ за савецкім часам) — Пятрок і Сцепаніда — увасабляюць беларускія нацыянальныя тыпы. Па напаўненню аповесць набліжаецца да жанру прытчы і нават эпасу, як лічаць некаторыя крытыкі. Што да майго меркавання, дык скажу болей. За гэтымі літаратурнымі героямі — Петраком і Сцепанідай са «Знака бяды» — расчытваецца, апроч нацыянальнай анталогіі, і своеасаблівы эзатэрызм народнага быцця. Па сутнасці, фактура вайны пісьменнікам толькі выкарыстана, каб паведаміць пра істотнае. У гэтым сціслым, нешматслоўным творы «быкаўскага» фармату (крылаты выраз) у эпічнае поле завязаны і спракаветны татэмізм беларусаў, захаваны да сярэдзіны XX стагоддзя, і суцэльнае абагаўленне прыроды; пададзены і пэўны містычны вопыт як вынік змагання з прыродай за кавалак хлеба, і вопыт асабістай экзістэнцыі. Апроч таго, у гэтай аповесці «двух герояў» сведчыцца адмыслова беларуская амбівалентнасць мужчынскага і жаночага ў народным характары. Менавіта — філасафізм і бесстароннасць да вонкавага жыцця мужчыны — Петрака, і — дзейнасць і актыўнае процістаянне цячэнню жыцця жанчыны — Сцепаніда. Урэшце абое прыходзяць да аднаго выніку — духоўнай свабоды; абое ўнутрана не скараюцца сіле чужынцаў, і таму, па сутнасці, яны, сяляне, перамагаюць у той вайне, абмежаванай для іх ваколіцамі род-

нага хутара. У тым і сімвалізм, і эзатэрычны сэнс аповесці. (Між тым вядома, што і фактычна здабылі перамогу ў другой сусветнай вайне такія ж простыя людзі-працаўнікі; славутую партызанскую вайну на тэрыторыі Беларусі вёў у пераважнай большасці беларускі селянін.)

Калі заўгодна, Пятрок з аповесці «Знак бяды» Васіля Быкава ўвасабляе старазапаветны, юдэйскі пачатак у народным характары; Сцепаніда — пачатак хрысціянскі, новазапаветны, еўрапейскі. Іх антагалагічны сімбіёз спарадзіў надзвычайную духоўную сілу, моц, што яшчэ больш узмацнілася, пакладзеная на паганскі (язычніцкі) падмурак. Праклінаючы зямлю пакут, гэтыя людзі імкнуцца не да долу, а ўверх, да Неба, туды, дзе ім павінна быць лёгка. На зямлі застаюцца толькі іх сляды, няўзоранае поле пад назвай Галгофа ды папялішча дома — вось і ўвесь зямны плён беларускага жыцця. Сляды, Галгофа і папялішча. Спробы, гвалт і Хатынь. XX стагоддзе.

...Пабуранае котлішча, папялішча на месцы колішняй дамоўкі страчае і адзіны герой іншай аповесці Васіля Быкава — «Аблава» — селянін Хведар Роўба, што з сям'ёй быў высланы пад Котлас як «кулацкі элемент». Сюжэт як быццам публіцыстычны, але гэта толькі знешне. Увогуле савецкая літаратура была вымушана пісаць на палітычныя тэмы, бо ў поглядах на савецкі лад, сталінізм праходзіла асноўная лінія і псіхалагічнага, і — праз гэта — эстэтычнага напружання мастака... Патрэбаю СКАЗАЦЬ ПРАЎДУ і спароджаны ў першую чаргу і салжаніцынскі «Архіпелаг ГУЛАГ», і быкаўская славутая аповесць сярэдзіны 60-х гадоў «Мёртвым не баліць». Фактура савецкай гісторыі сталася галоўнай у савецкай літаратуры цалкам заканамерна.

Але — тут я вяртаюся да згаданай аповесці «Аблава» — сапраўдны мастакоўскі талент за фактурай гісторыі «ўнутраным зрокам» зазвычай бачыць выявы

сутнаснага ў сваім народзе і ў сваім часе. І для мастака не так важна, у якіх гістарычных варунках, у якім менавіта часе выяўляецца народная анталогія, архетыпы яго духоўнасці. Увогуле, як здаецца, Васіль Быкаў ва ўсіх сваіх творах шукаў адказ на адно пытанне: што дае чалавеку Сэнс быцця, што дапамагае паасобкаваму чалавеку ўтрымацца на краёчку быцця. У франтавых аповесцях той адказ быў адным, больш публіцыстычна-дыдактычным, чым анталагічным; у творах цывільных, «людовых» — адказ інакшы, глыбейшы, менавіта анталагічны. Вось, напрыклад, у аповесці «Аблава», на прыкладзе знясіленага, зацкаванага сталінскай аблавай беларускага селяніна, «пана сахі і касы», згубіўшага па віне савецкай улады ў жыцці ўсё —і жонку з дачушкай (загінулі ў лагеры для рэпрасаваных), і свой дом з гаспадаркай (канфіскавала і разрабавала ўлада), і сына — пайшоў у камсамольскія работнікі, адрокся ад бацькі-«кулака»,— пісьменнік спрабуе асягнуць апошнюю мяжу, ускраек сэнсу ў свядомасці гэтага чалавека — пасяленца XX стагоддзя, звычайнага селяніна, адзінай субстанцыяй стасункаў якога праз стагоддзі была Зямля. Ціхі, мяккі, зважлівы, крыху набожны і прымхлівы (зусім як і папярэдні герой, Пятрок са «Знака бяды»), ён, у варунках скасавання ўладаю і без таго небагатага зямнога нажытку, страты якога-кольвек зямнога апірышча, знаходзіць адзінае — магічнае выйсце, каб не звар'яцець на юдолі лёсу. З лагера ён доўгія месяцы прабіраўся дамоў не дзеля таго, каб загаспадарыць — таго не дасць яму зямны парадак,— а каб ЗІРНУЦЬ І ПАМЕРЦІ. Зірнуць — на свой дом і падвор'е, родны краявід, і толькі затым — памерці. Без знітаванасці з роднай, родавай матэрыяй гэты чалавек пачуваецца ў жахлівай экзістэнцыйнай пустаце, з-за якой не здольны нават памерці, развітацца з жыццём. І таму Хведар Роўба, патомны ратай, прыходзіць на радзіму. Бачыць ён пабуранае котлішча, адчужаных

аднавяскоўцаў, ад якіх вымушаны хавацца ў лесе. Але пабачаны малы апакаліпсіс не скасоўвае яго запаветных спадзяванняў, не перашкаджае здабыць галоўную, магічную апору экзістэнцыі — інфернальную лучнасць з памерлымі продкамі. Пад святлом поўні, на вясковых могілках чалавек нарэшце супакойваецца душою, здабывае тую крупінку сэнсу быцця, да якой мусіў ісці праз ліхоты зямнога лёсу. Сімвалічны зыход гэтай адзінокай драмы — у фінале аповесці герой нарэшце растварaецца ў багне, загнаны туды камсамольскай аблогай, істотай, плоццю сваёй зліваецца з прыродай: «быў тло і ў тло абярнуўся».

У дадзеным выпадку чалавека правёў і вывеў з зямнога часу покліч Танатаса — дух памерлых продкаў. Іншага паратунку ў такіх акалічнасцях быццё і не магло прапанаваць.

Такі змест дзвюх аповесцяў Васіля Быкава. Як бачым, эзатэрыка, магічныя матывы змаглі выявіцца і ў творчасці гэтага, здавалася, цалкам «ваеннага» і рэалістычнага пісьменніка. Выявіцца — напэўна, па-за свядомасцю самога аўтара, як каркас той падводнай часткі айсберга, што мацуе ўсе бачныя пласты творчасці. У апошняй сваёй аповесці — «Сцюжа», пачатай яшчэ ў 1969 годзе, скончанай у 1991-м, Васіль Быкаў спрабуе паказаць працэс перараджэння светлай з народзінаў асобы вясковага хлопца ў апантанага служку таталітарнай сістэмы. Там — і паяднанне з камсамольскай блудніцай, і сімвалічнае, фаўстаўскае падпісанне даносу на невінаватага чалавека, і затым імпэтнае штудыяванне партыйнай навукі, «раскулачванне» ўласных жа аднавяскоўцаў, бацькоў... І, урэшце,— поўнае душэўнае спусташэнне. На пачатку вайны няўдалага камсамольскага «важака» ратуе ад немцаў простая вясковая жанчына — сімвал векавечнай народнай жыццятворнай сілы, незагубленага Эрасу... Праўда, у гэтай аповесці абразок эзатэрыкі больш публіцыстычны, чым у аповесцях «Знак бяды» і «Аблава».

Такім чынам, калі падагульняць, праз прызму эзатэрычнага бачання беларускай мастацкай літаратуры паўстае народны тып, што цалкам захоўвае магічную, дахрысціянскіх вытокаў повязь з продкамі; які спавядае пантэізм і анімізм; які адракаецца ад уласнай плоці дзеля выратавання духу, дзеля здабыцця вышэйшай для сябе, нябеснай ісціны,— але маўкліва туліць гэтую ісціну ў сабе, хавае ў глыбіні душы. Духоўнасць гэтага народнага тыпу — беларускага — па выяўленні сваім наўменальная, рэч у сабе; магічнае ядро гэтай ментальнасці пакуль не расшчэплена, і ў гэтым і палягае ці не галоўная загадка этнасу, што выхаваў і А. Міцкевіча, і С. Манюшку, і М. Агінскага... даў гены Ф. Дастаеўскаму, Г. Апалінэру, Т. Касцюшку...

Думаецца, што загадку, сутнасць свайго народа ці не найбольш трапна выказаў выдатны беларускі географ і палітык, адзін са стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі Аркадзь Смоліч (загінуў у сталінскім ГУЛАГу ў 30-х гадах): «Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыны, тае будучыны, калі справядлівасьць запануе між народамі, але быў мала падгатаваным да змаганьня за быт, за жыцьцё, якое йшло вакола яго і яго коштам, але на яго шкоду... Ён... насяліў сьвет вакола сябе разнароднымі духамі, благімі і добрымі, і жывець напалову ў сьвеце духаў» (Смоліч А. Географія Беларусі). ЖЫВЕЦЬ НАПАЛОВУ Ў СВЕЦЕ ДУХАЎ — вось яна, сутнасць народнай беларускай экзістэнцыі. Духі клічуць нас у Неба, яны ж апекуюцца і Смерцю. На Зямлі застаюцца сляды.

# НАЙМАГУТНЫ РЫЦАР ЛЮБОВІ

Амаль дзённік*

Апроч грамадзянскай сімпатыі, кожны сапраўдны Мастак тым дарагі людству, што прыходзіць да нашых сэрцаў упаасобку, як шчыры і светлы сябра. І становіцца патаемным сябрам на ўсё жыццё.

Патрэба ў гэткім сябры асабліва вострая тады, для тых пакаленняў, якія самім часам асуджаны на татальную паняверку і хаос. Такім пакаленнем сёння ёсць маладое пакаленне, пакаленне 20—30-гадовых, што прыйшло да свядомага жыцця ў другой палове 80-х і было проста асуджана на раз'яднанасць і хаос. Бо лёс рыхтаваў нам альбо ашалелае служэнне камуністычным максімам, альбо — панылае кухоннае дысідэнцтва. У нас не было, у адрозненне ад ваеннага ці пасляваеннага пакаленняў, ані франтавога братэрства, ані з'ядноўваючага пафасу свабодалюбства, якім жылі «шасцідзесятнікі». Увогуле пасля «шасцідзесятнікаў» не стала «пакаленняў»; пакаленне Вінцука Вячоркі і Сяргея Дубаўца было асуджана на раз'яднанасць і бясслоўнае пеставанне свайго ўнутранага «я». А маладзейшыя — тым болей...

У такіх варунках мы шукалі ісціну на асабістых шляхах.

І самымі ўдзячнымі суразмоўнікамі нашымі былі кнігі, Яе Вялікасць Літаратура. І калі яны знаходзіліся — то заставаліся з намі на ўсё жыццё. У маім лёсе гэткімі кнігамі сталіся творы Васіля Быкава.

---

*Гэты, па шчырасці выказвання — дзённікавы тэкст агалошаны на ўрачыстым ушанаванні 70-х угодкаў з дня нараджэння В. Быкава ў сядзібе БНФ «Адраджэньне» ў Менску (чэрвень 1994).

Пры канцы «перастройкі», у пастылай армейскай казарме, вельмі далёка ад Бацькаўшчыны, душою да Бацькаўшчыны мяне вярнула аповесць «Знак бяды», якую тады выпала прачытаць у перакладзе на рускую мову. Аповесць быццам змыла роспач; нагадала пра Дом, пра тое, куды трэба абавязкова вярнуцца і дзе толькі праўдзіва і можна адбыцца як чалавеку. Другі раз Васіль Уладзіміравіч прыйшоў на дапамогу ўжо тут, у Менску, дома, калі стала зразумела, што ніякай лагоднасці і рамантызму тут, удома, няма; што паўсюль камандуе альбо цынічная набрыдзь, альбо свае ж слабавольныя перараджэнцы... І што наперадзе — шлях супраціву і штоімгненнага процістаяння з рэчаіснасцю. (Процістаяння не толькі палітычнага, пад штандарам Фронту, але і ўвогуле маральнага, штодзённага, пабытовага...) Зразумець гэтую жорсткую ісціну пры канцы 80-х дапамагла аповесць Васіля Быкава «Аблава». АБЛАВА — як метафара сучаснага метафізічнага стану свету, з якога, па словах філосафа экрана Інгмара Бергмана, сыходзіць Любоў. І трэба зразумець, што ўсе добрыя памкненні будуць атакоўвацца сіламі зла; што рыцары Дабра гэтаму свету быццам і не патрэбны...

Але што рабіць, калі ўсвядомлена такое? — Скарыцца, і жыць добрымі намерамі ўпаасобку?.. Відаць, не. І тут на дапамогу зноў прыходзіць Мастак — Васіль Быкаў. Прыходзіць, на гэты раз асабістым прыкладам. А іменна — заняўшы выразную грамадзянскую пазіцыю. Сцвердзіўшы тым самым, што чужую, варожую вакольную рэчаіснасць упаасобку перамагчы немагчыма; што трэба гуртавацца, яднацца, ладзіць Фронт... І гэткі крок Мастака — самы што ні ёсць адэкватны суроваму духу яго мастацтва, мужнаму пафасу яго творчасці; ён, гэты крок, сам з'яўляецца мастацкім учынкам...

Але як быць з тым, што са свету знікае Любоў, сыходзіць Мілосць? Што множыцца паняверка, шырыцца распад? Нам, нават пры найвелькшым эмацыйным ап-

тымізме, на жаль, не дадзена ведаць, куды, у якім кірунку рухаецца Сусвет,— да лепшага ці да горшага, да росквіту ці заняпаду, да Усяленскага Сэнсу ці да апошняй мяжы розуму... Бо ж было пагрозлівае прароцтва Яна Багаслова... Але так сталася, што Фронт добрых намераў існуе, існуе асяродак сумленнасці і ўзаемапавагі,— Фронт Любові. Значыцца, вакольны распад і роспач не могуць быць фатальнымі; значыцца, і ў раз'яднанае людства Фронт Любові, на чале якога стаяць ахвярны рамантык і суровы мастак, мае прыўнесці флюіды Сэнсу і Любові. Так, нам няведама, што пагражае свету, Сусвету, але ж мы пэўна ведаем, што пагражае нам, пэўнай частцы людства. І каб выстаяць надалей у Фронце, прыкладам дзеля нас, маладых найперш,— лёс і творчасць Васіля Уладзіміравіча Быкава.

Раней казалі — «проза жыцця»; сёння можам назваць наша жыццё — «франтавой прозай». Бо гэта так, паўсюль, наўкола. Васіль Быкаў кліча нас да гэтае ісціны праз усё сваё мастацтва і творчасць, і яна, яго творчасць,— ратаўнічы мастацкі свет для людзей. То дзякуй Богу, што Беларусь мае гэты свет, гэтую глыбу, гэты магутны пастамент адвагі і годнасці. І дай Бог, каб нацыя ўрэшце павярнулася да свайго наймагутнага рыцара.

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Залоска Юрый Іванавіч**

*Дыялогі з Васілём Быкавым*

Інтэрв'ю, эсэ

Здымкі У. *Карміліна і С. Грыца*

Рэдактар *Я. Р. Лецка*
Мастак *В. А. Губараў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *К. У. Дзмітрыенка*
Аператары *В. І. Баруга, К. І. Санжараўская*

Падп. да друку 01.03.95. Фармат 70x100 1/32. Папера друк № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,9+0,32. Ум. фарб.-адб. 4,39. Ул.-выд. арк. 4,42. Тыраж 2000 экз. Зак. 1868.

Выданне набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

«Мы ведаем з гісторыі, што многія народы за сваю незалежнасць пралілі мора крыві. У нас жа гэта адбылося без асаблівых высілкаў і вялікіх дэбатаў... Відаць, незалежнасць патрабуе другой цаны, другой платы. Напэўна, і эканамічных выпрабаванняў — самых жорсткіх... Такі стан рэчаў не залежыць ад чыёйсьці злой волі альбо недагляду: тут дзейнічаюць гістарычныя прычыны. Будзе яшчэ шмат тупікоў і пастак... Калі нацыя мае волю да незалежнасці, яна з іх выберацца; калі ж на пачатку дарогі карціць вярнуцца назад,— тады, можа, і не варта было на гэты шлях ступаць...»

*Васіль БЫКАЎ*